*Рашэнні XXVII з'езда КПСС — у жыццё!*

# З ДУМКАЙ ПРА ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

Бадай што няма ніводнай больш-менш значнай падзеі ў нашым сённяшнім жыцці, якая засталася б па-за ўвагай кінадакументалістаў. Яны наглядна, увачавідкі адлюстроўваюць нашы здабыткі і праблемы, падтрымліваюць і пашыраюць парасткі новага, змагаюцца з недахопамі. Чалавек з кінакамерай стаў сапраўдным памочнікам ва ўсіх сферах нашага жыцця.

Надзённыя гаспадарча-эканамічныя і навукова-тэхнічныя праблемы, звязаныя з перабудовай нашай работы ў розных галінах гаспадаркі, навуковыя пошукі і здабыткі, розныя аспекты міжнароднага жыцця — гэтым і іншым пытанням прысвечаны многія дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы, якія выходзяць на экраны рэспублікі ў маі.

Усе мы памятаем, колькі гарачых спрэчак выклікаў праект пераkiду вод нашых паўночных рэк на поўдзень.

У дакументальнай стужцы «ЗЯМЛЯ І ВАДА» сваю думку аб праекце выказваюць і яго прыхільнікі, і яго праціўнікі.

Аўтары кінакарціны сканцэнтроўваюць сваю ўвагу на тых неабарачальных і па-сутнасці згубных выніках, да якіх магло б прывесці ажыццяўленне гэтага праекта. Звяртаючыся да сумнага вопыту мінулых гадоў, аўтары фільма аргументавана даказваюць, што прырода жорстка помсціць за непрадуманыя, паспешлівыя рашэнні.

Аналагічная праблема даследуецца і ў стужцы «ПЛАЦІНА». Яе аўтары на прыкладзе будаўніцтва Багучанскай ГЭС разважаюць аб праблемах буйнамаштабнага раўніннага гідрабудаўніцтва і яго выніках. Кожная ж рака — гэта жывая экалагічная сістэма, яе поймы і заліўныя лугі — самыя прадуктыўныя землі. А пры будаўніцтве раўнінных ГЭС іменна яны і затапляюцца. Да таго ж даводзіцца зносіць цэлыя вёскі, помнікі гісторыі і культуры. Паводле падлікаў спецыялістаў, страты, якія прычыняюцца ў выніку непрадуманага будаўніцтва буйных раўнінных ГЭС, на сённяшні дзень вылічваюцца дзесяткамі мільярдаў рублёў.

Больш як дзесяць гадоў назад у адным з буйнейшых у свеце цэнтраў па вывучэнню плазмы — Харкаўскім фізіка-тэхнічным інстытуце было зроблена цікавае адкрыццё, дзякуючы якому ў вучоных з'явілася магчымасць змешваць тое, што ў прыродзе змяшаць нельга. Напрыклад, метал і газ. З некаторых металагазавых сумесей можна атрымліваць вельмі тонкія, але надзвычай трывалыя плёнкі, якія маглі б з поспехам выкарыстоўвацца ў машынабудаванні, пры рэстаўрацыі гістарычных помнікаў, яны маглі б зрабіць пераварот у стаматалогіі. На жаль, адкрыццё, зробленае харкаўчанамі, выкарыстоўваецца толькі асобнымі прадпрыемствамі і ведамствамі. Чаму! Пра гэта ідзе размова ў навукова-папулярным фільме «ПРЫВАТНЫ ВЫПАДАК З ЖЫЦЦЯ... ПЛАЗМЫ».

Мы прывыклі бачыць іх на асфальце, на гарадскіх вуліцах. А вось сёння ўсё большая колькасць гараджан уліваецца ў рады садаводаў-аматараў, выказвае жаданне працаваць на зямлі. У дванаццатай пяцігодцы плануецца больш чым на мільён павялічыць колькасць садовых участкаў у краіне. У той жа час развіццё калектыўнага садоўніцтва стрымліваецца мноствам праблем. Асвойваць садовыя ўчасткі аматары вымушаны практычна ўручную. Шмат праблем выклікае і рэалізацыя лішкаў вырашчанай агародніны і садавіны. Усе гэтыя і іншыя праблемы разглядаюцца ў дакументальнай стужцы «ГАРАДЖАНЕ НА ЗЯМЛІ».

Актуальным пытанням сённяшняга міжнароднага жыцця прысвечана поўнаметражная дакументальная кінакарціна «БЫЦЬ АБО НЕ БЫЦЬ... БЫЦЬ». Канец XX стагоддзя часта называюць часам вялікіх трывог і вялікіх надзей. Сапраўды, сёння ўжо практычна не існуе такога паняцця як нацыянальная бяспека — ёсць праблема агульнай бяспекі: цяпер жа вырашаецца пытанне быць або не быць усёй нашай планеце.

Аўтары фільма пераканаўча даказваюць, што сапраўднай прычынай няўстрымнай гонкі ўзбраенняў на Захадзе з'яўляецца не што іншае, як жаданне дасягнуць ваеннай перавагі над СССР і іншымі сацыялістычнымі краінамі. Палітыка «крыжовага паходу» супраць камунізму не новая, і ва ўсе часы яна была асуджана на паражэнне, бо немагчыма павярнуць назад кола гісторыі. Тым больш бяссэнсавыя і бесчалавечныя такія спробы ў наш ядзерны век, калі любы ўзброены канфлікт пагражае самому існаванню чалавечай цывілізацыі.

Убачаць гледачы ў маі і іншыя дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы, прысвечаныя надзённым пытанням сучаснасці.

# ЖАЛЕЗНАЕ

Так называецца каляровая мастацкая кінакарціна, створаная рэжысёрам Яраполкам Лапшыным на Свярдлоўскай кінастудыі па сцэнарыю Аляксандра Рэкемчука. Фільм гэты — аб ваеннай памяці, аб франтавіках, якія цаной жыцця адстаялі Савецкую краіну і ўвесь свет ад фашызму, аб цяперашнім пакаленні, якое не бачыла вайны.

Галоўны герой, ветэран вайны, адказны супрацоўнік Дзяржстандарта Бабылёў сустракаецца з горадам, які калісьці абараняў. Ён знаёміць жонку і сына з мясцінамі, дзе яму давялося ваяваць...

Бабылёў выходзіць на балкон трэцяга паверха гасцініцы і паказвае жонцы Волгу...

— Па сцэнарыю,— расказвае Яраполк Лапшын,— наш герой сустракаецца на цеплаходзе з заходнегерманскім турыстам, былым унтэр-афіцэрам, які ваяваў у Сталінградзе і да гэтага часу лічыць, што салдаты вялікай Германіі праяўлялі цуды храбрасці і стойкасці. Ён не разумее, чаму нельга паставіць у гэтых месцах помнік нямецкім салдатам, якія «доблесна выканалі свой абавязак і загінулі ў баі».

У цэнтры карціны — не толькі спрэчка раздзеленых вайной і ідэалогіямі людзей старэйшага пакалення, але і дыялог паміж прадстаўнікамі малодшага, якое вайны не бачыла. Унучка нямецкага турыста сустракаецца з сынам Бабылёва, у іх узнікае ўзаемная сімпатыя. Фільм як бы заклікае — так і павінна быць: трэба сябраваць, а не варагаваць.

Здымкі карціны вяліся на Мамаевым кургане, на Салдацкім полі. Герой пройдзе з жонкай і сынам міма свяшчэнных рэліквій, скрозь ваенную памяць, якая застыла ў сценах-руінах, у Вечным агні.

— І чым закончылася спрэчка вашага героя з нямецкім турыстам?

— На Салдацкім полі (мы яго назвалі Жалезным) былы ўнтэр-афіцэр гіне ад сардэчнага прыступу. У апошнія мінуты жыцця ён прымае камбайны за танкі.

Кадры фільма чаргуюцца з ваеннай кінахронікай палаючага Сталінграда. Мы наўмысна не згладжваем пераходы ад мастацкіх кадраў да ваеннай хронікі, каб паказаць, як не адпавядаюць адзін аднаму вайна і мір.

— І чым заканчваецца фільм?

— У карціне галоўны герой маладзее. У свой час, каб трапіць на фронт, Бабылёў прыпісаў сабе гады. Праз больш як сорак гадоў ён рашае іх вярнуць...

Галоўныя ролі выконваюць Пётр Вельямінаў, Яўгеній Шутаў, Валянціна Цітова, Алег Ляўшын, Вітаўтас Канцлерыс, Вольга Агапава і іншыя.

## ПОЛЕ

### ЖЕЛЕЗНОЕ ПОЛЕ

Фильм Свердловской киностудии — о военной памяти, о фронтовиках, которые ценою жизни отстояли Советскую страну и весь мир от фашизма, о нынешнем поколении, которое знает о войне понаслышке. В центре картины — не только спор разделенных войной и идеологиями людей старшего поколения, но и диалог между представителями младшего, которое войны не видело. Внучка немецкого туриста встречается с сыном нашего ветерана войны, у них возникает взаимная симпатия. Фильм как бы призывает — так и должно быть: надо дружить, а не враждовать.



Варажун — арт. Яўгеній Шутаў, Бабылёў — арт. Пётр Вельямінаў.



## Акцёры новых фільмаў

## ВАЛЯНЦІНА ЦІТОВА

Кінадэбют Валянціны Цітовай адбыўся ў 1964 годзе ў фільме «Завіруха». Яе, навучэнку студыі пры Вялікім драматычным тэатры імя М. Горкага, вядомы кінарэжысёр Уладзімір Басаў запрасіў на ролю Мар'і Гаўрылаўны. Запрашэнне здымацца ў кіно было для Цітовай нечаканым — яна марыла аб рабоце ў любімым тэатры, рэпеціравала ў п'есе «Яшчэ раз пра каханне», удзельнічала ў спектаклях, рыхтавалася да выпускных экзаменаў. Але магчымасць увасобіць на экране вобраз пушкінскай гераіні здалася пачынаючай актрысе вельмі спакуслівай. З хваляваннем і страхам прыступіла яна да работы на здымачнай пляцоўцы. Часам не хапала вопыту і майстэрства, але прыродны талент і навыкі, набытыя ў студыі, дапамаглі ёй атрымаць першую перамогу ў кінематографе. Так, гэта была бясспрэчна пушкінская гераіня — замілавальна[я] і летуценная правінцыяльная паненка, прыгожая і рамантычная, выхаваная на французскіх раманах, здольная дзел[ь]... ўзвышанага кахання на безразважны[я] ўчынак.

Поспех першай ролі вызначыў далей[шы] творчы лёс Валянціны Цітовай — яна стала актрысай кіно.

Але ўдалы дэбют сыграў і адмоўную ролю: актрыса, якая валодае цудоўным[і] знешнімі данымі, абаяльнасцю і жаноц[тас]цю, трапіла ў палон амплуа лірычна[й]



гераіні. Аб гэтым можна меркаваць па тых ролях, якія былі сыграны ёю ў фільмах «Усходні калідор» (Людміла), «Шчыт і меч» (Ніна), «Вяртанне да жыцця» (Мары), «Мора нашай надзеі» (Вольга), «І на Ціхім акіяне...» (Вара), «Усход над Гангам» (Мэры).

Адна з найбольш удалых работ актрысы з пералічаных вышэй — Мары ў фільме «Вяртанне да жыцця». Гэта пяшчотная і кволая жанчына, якая здолела сілай свайго кахання і веры вярнуць да жыцця чалавека цяжкага лёсу, здавалася б, назаўсёды страчанага для грамадства. Цітова сыграла ролю з сапраўдным драматызмам. Іменна ў гэтай ролі найбольш ярка праявілася творчая манера актрысы, яе дзівоснае ўменне раскрыць усю глыбіню і складанасць душэўнага свету сваіх гераінь, выкарыстоўваючы пры гэтым мінімум знешніх выяўленчых сродкаў.

Неўзабаве гледачы зноў сустрэліся з Валянцінай Цітовай у фільме «Абмен». Карціна знята па матывах аднайменнай аповесці Юрыя Трыфанава. Цітова іграе жонку галоўнага героя — Ліну. У адным з інтэрв'ю актрыса, расказваючы аб рабоце ў гэтым фільме, так вызначыла свае адносіны да Ліны: «Не кажыце мне аб ёй нічога дрэннага, інакш я яе страсны абаронца». Інакш Цітова не можа: для яе галоўнае — да канца зразумець характар сваёй гераіні, яе суб'ектыўную праўду. Ліна, пачынаючы абмен кватэры з безнадзейна хворай маці мужа, шчыра пераканана ў сваёй справядлівасці: яна стараецца наладзіць дабрабыт сваёй сям'і. На экране мы ўбачым разумную, абаяльную, інтэлігентную жанчыну, якая ўдала скрывае за гэтым камуфляжам усю сваю мяшчанскую сутнасць і цынічны практыцызм.

Валянціну Цітову гледачы бачылі таксама ў кінастужках «Небяспечны паварот», «Нейлон 100%», «Крок насустрач», «Сто грамаў для храбрасці», «Сентыментальны раман», «Сямейныя абставіны», «Гонкі без фінішу», «Айцец Сергій», «Расклад на паслязаўтра», «Пятроўка, 38», «Карнавал», «Асабістыя рахункі», «Пяшчотны ўзрост», «Завяшчанне прафесара Доўэля», «Восем дзён надзеі», «І на каменні растуць дрэвы», «Змеялоў», «Завяшчанне», у тэлевізійным беларускім фільме «Цётка Маруся» і іншых.

У маі гледачы сустрэнуцца з папулярнай актрысай у новай кінакарціне «Жалезнае поле».

# ТРАЙНЫ СКАЧОК «ПАНТЭРЫ»

У вострасюжэтнай форме фільм расказвае аб рэальнай падзеі, якая мела месца ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Нямецкае камандаванне, нездаволенае тым, што Японія зацягвае сваё ўступленне ў вайну супраць Савецкага Саюза, вырашае аказаць на яе націск і з гэтай мэтай пасылае ў Токіо свайго спецыяльнага прадстаўніка. Дабрацца да Токіо можна было толькі з пасадкай і дазапраўкай самалёта ў Казахстане, у раёне возера Балхаш. Немцы высаджваюць ва ўказаным раёне дыверсійную групу, якая павінна падрыхтаваць пляцоўку для пасадкі.

Самалёт, які выкінуў дыверсійную групу, выяўлен органамі НКУС. Тэрмінова былі створаны пошукавыя групы, адной з іх кіруе капітан Кадыраў, які пасля ранення прыбыў з фронту на пабыўку. Пачаліся доўгія і цяжкія пошукі дыверсантаў. Урэшце групе Кадырава ўдалося цаной вялікіх ахвяр абясшкодзіць іх, сарваўшы варожую аперацыю.

Каляровая мастацкая кінакарціна пастаўлена рэжысёрам Лейлай Аранышавай на кінастудыі «Казахфільм» па сцэнарыю Георгія Тэр-Аванесава і Уладзіміра Пяцеліна.

У галоўных ролях выступаюць Абдрашыд Абдрахманаў, Леў Пярфілаў, Сяргей Калтакоў, Сійм Рулі, Гульназід Амарава, Аміна Умурзакава, Юрый Назараў.



**ТРОЙНОЙ ПРЫЖОК «ПАНТЕРЫ»**

В остросюжетной форме лента «Казахфильма» рассказывает о реальном событии, имевшем место в годы Великой Отечественной войны. Немецкое командование, недовольное тем, что Япония затягивает свое вступление в войну против Советского Союза, решает оказать на нее нажим и с этой целью посылает в Токио своего специального представителя. Добраться до Токио можно было только с посадкой и дозаправкой самолета в Казахстане, в районе озера Балхаш. Немцы высаживают в указанном районе диверсионную группу, которая должна подготовить площадку для посадки...

# СЫШОЎШЫЯ З НЯБЁСАЎ

...Маша і Сяргей сустрэліся і пакахалі адзін аднаго на фронце.

З цёмнага падзямелля, акружанага з усіх бакоў фашыстамі, зраненыя, гінучыя без ежы і вады байцы робяць вылазкі наверх, да запаветнага калодзежа. Але вярнуцца не ўдалося яшчэ нікому...

Плыве над выпаленым стэпам, пранікаючы ў катакомбы, танга «Ах, эти черные глаза...», і, каверкаючы рускія словы, голас нямецкай перакладчыцы абяцае тым, хто здасца ў палон, «гуманнае абыходжанне».

Параненаму Сяргею, як і іншым, патрэбна вада, і санінструктар Маша рашае здабыць яе што б там ні было. Але Сяргей не адпускае яе адну, і яны ідуць удваіх к калодзежу: яна з вядром — наперадзе, ён з аўтаматам, прыпадаючы на параненую нагу,— ззаду. Немцы здзіўлены храбрасцю гэтых двaіх і з цікаўнасцю разглядаюць іх. Але ўжо напоўненае вадой вядро Сяргей выпадкова перакульвае,— і фашысты заліваюцца рогатам. Пад іх гагатанне, гатовыя кожную секунду пачуць выстралы, Маша і Сяргей павольна адступаюць да катакомбаў...

У гэты момант аўтары фільма пакідаюць сваіх герояў, каб у наступным кадры сустрэцца з імі праз пяць пасляваенных гадоў...

Каляровая шырокаэкранная мастацкая кінакарціна «Сышоўшыя з нябёсаў» пастаўлена рэжысёрам Наталляй Трошчанка на кінастудыі «Ленфільм» па матывах аповесці Аляксея Каплера «Двое з дваццаці мільёнаў».

У фільме здымаліся Вера Глаголева, Аляксандр Абдулаў, Алена Папова, Юрый Бяляеў, Мікалай Іваноў, Алег Меляneўскі і іншыя.



**Маша — арт. Вера Глаголева, Сяргей — арт. Аляксандр Абдулаў.**



**СОШЕДШИЕ С НЕБЕС**

...Маша и Сергей встретились и полюбили друг друга на фронте. Раненому Сергею, как и другим, нужна вода, и санинструктор Маша решает добыть ее во что бы то ни стало. Но Сергей не отпускает ее одну, и они идут вдвоем к колодцу, идут, можно сказать, на верную смерть...

В этот момент авторы фильма покидают своих героев, чтобы в следующем кадре встретиться с ними через пять послевоенных лет...

Лента снята на «Ленфильме».

## Акцёры новых фільмаў

# АЛЯКСАНДР АБДУЛАЎ

Аляксандр Абдулаў, адзін з самых папулярных нашых акцёраў, заваяваў сімпатыі гледачоў, сыграўшы чараду казачных прынцаў і летуценных закаханых... Высокі, прыгожы, сучасны, пластычны, спартыўны — гэтымі эпітэтамі (зусім, трэба сказаць, справядлівымі) вось ужо некалькі гадоў прэса ўзнагароджвае Абдулава, паўтараючы настроі тых, хто імкнецца ўбачыць у ім перш за ўсё рамантычнага героя. Аднак самога Абдулава не задавальняюць рамкі аднаго гэтага амплуа. «Акцёр — перш за ўсё штукар, таму ён павінен, абавязан быць розным»,— гаворыць Абдулаў.

Што датычыць тэатра, то ў свае 34 гады Абдулаў на сцэне ўжо 29 гадоў. І гэта не жарт. Саша выйшаў на падмосткі ў пяць гадоў, сыграўшы ў адным са спектакляў Ферганскага тэатра, дзе яго бацька быў галоўным рэжысёрам. К заканчэнню школы юнак цвёрда вырашыў стаць акцёрам, але пацярпеў няўдачу на ўступных экзаменах у тэатральнае вучылішча. Затое на наступны год паспяхова прайшоў конкурс адразу ў некалькіх маскоўскіх ВНУ, выбраў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва і ўжо студэнтам чацвёртага курса выйшаў на сцэну Тэатра імя Ленінскага камсамола.

Ён сыграў галоўную ролю ў спектаклі «У спісах не значыўся», пастаўленым Маркам Захаравым па аповесці Барыса Васільева аб абаронцах Брэсцкай крэпасці. Малады акцёр, які ніколі не бачыў вайны, іграў чалавека іншага пакалення з такой самааддачай і шчырай верай у тое, што адбывалася, што ўжо вельмі скора тэатралы, як гаворыцца, «пайшлі на Абдулава».

У кіно Аляксандр Абдулаў дэбютаваў у 1976 годзе роляй Барыса Рогава ў кінастужцы «Залатая рэчка». Затым былі кінакарціны «Дванаццаць крэслаў», «72 градусы ніжэй нуля», «Капітанская дачка», «Пунсовая кветачка», «Уцёкі з турмы», «Звычайны цуд», «Усё вырашае імгненне», «З каханымі не расставайцеся», «Сіцыліянская абарона», «Той самы Мюнхаўзен», «Факты мінулага дня», «Жанчына ў белым», «Карнавал», «Прадчуванне любві», «Шукайце жанчыну», «Рэцэпт яе маладосці», «Тайны мадам Вонг», «Барані мяне, мой талісман».

— Якая ж з вашых кінароляў самая любімая?

— Усе. Нават не вельмі ўдалыя. Гэта мая кроў, мае нервы. У кожную укладзен час, кавалачак сэрца, і я гатоў несці адказнасць за кожную з іх.

— Ну а якая роля была самай нечаканай?

— Бадай, адваката Рамкопфа ў фільме «Той самы Мюнхаўзен» — вострахарактарная, камедыйная, калі хочаце, адмоўная роля з цікавым падтэкстам. Складаную задачу рэжысёр паставіў перада мной і ў сваёй апошняй рабоце — «Дом, які пабудаваў Свіфт». Тут мне давялося паказаць эвалюцыю чалавека — ад абывацеля, абмежаванага, закасцянелага, не здольнага на ўчынак, да яркай, цэласнай асобы. Гэты перыферыйны клерк, сустрэўшыся з геніем, пачынае пераацэньваць жыццёвыя каштоўнасці і, вобразна кажучы, ператвараецца з ліліпута ў Гулівера.

— Якому амплуа вы самі аддаеце перавагу?

— Я лічу, што ў акцёра не павінна быць амплуа. Таму што любое амплуа — гэта, як правіла, аднапланавыя ролі, сцёртае клішэ. Гледача ж трэба варушыць, падносіць яму сюрпрызы, а не быць аднастайнай маскай. Хоць маска, адточаная і непаўторная сэнсам,— таксама вялікае майстэрства, узяць хоць бы комікаў нямога кіно.

— Як вы працуеце над роляй?

— Я не хацеў бы аб гэтым гаварыць. З акцёрскай справы амаль знікла тайна —

усе ўсё ведаюць: як робіцца кіно, як распрацоўваюцца трукі, як у акцёра адбываецца працэс ўжывання ў вобраз... І гэта крыўдна. Як хочацца, каб заставалася нешта невытлумачальнае, падсвядомае. Ды і што я магу расказаць аб тым, як я станаўлюся, напрыклад, Гамлетам? Дзе ў мяне мышца сціснулася, які вобраз у мяне ўзнік у той ці іншы момант? Акцёр робіць — і ўсё, а ўжо глядач няхай воххае і здзіўляецца: як гэта яму ўдалося? Наша задача — прымусіць гледача смяяцца, плакаць, суперажываць з героем, а не даваць зачэпку думаць аб сакрэтах акцёрскай тэхнікі.

— Удзельнічаючы ў адной з папулярных тэлеперадач (здаецца, у «Тэатральнай гасцінай»), вы аспрэчылі выказаную кімсьці думку, што празмерная загружанасць папулярных акцёраў (тэатр, кіно, тэлебачанне, эстрада, творчыя вечары і г. д.) — адна з прычын з'яўлення ў іх «паслужных спісах» заведама праходных роляў. Ці не змяніўся з цягам часу ваш пункт гледжання наконт гэтага?

— Я і цяпер гатоў падпісацца пад гэтымі словамі. Акцёр — гэта такая ж прафесія, як і многія іншыя. Пазбаўце, напрыклад, цесляра-чырванадрэўшчыка магчымасці на працягу года займацца сваім рамяством — і ён непазбежна страціць з гадамі набытыя прафесіянальныя навыкі. Тое ж у роўнай ступені адносіцца і да артыста.

Чакаць гадамі жаданай ролі, адмаўляцца ад любых іншых прапаноў у нашы дні нельга. Нават «зоркі» сусветнага экрана здымаюцца не толькі ў прызнаных майстроў рэжысуры, а і ў кінематаграфістаў-«серадняко́ў», і ніхто іх не папракае ва «ўсяреднасці».

Больш сур'ёзная, на мой погляд, небяспека, якая падсцерагае акцёра,— бяздумная эксплуатацыя рэжысёрамі яго знешніх даных, «тыпажнасці». Гэтым грашыць, у першую чаргу, кінематограф.

— У тэатры — у нашым, у прыватнасці,— усё абстаіць сапраўды некалькі інакш. М. Захараў, які даўно зарэкамендаваў сябе не толькі арыгінальна думаючым рэжысёрам, смелым эксперыментатарам, але і беражлівым настаўнікам артыстычнай моладзі, імкнецца заўсёды ствараць умовы для максімальна поўнага праяўлення творчай індывідуальнасці любога артыста.

Тэатр імя Ленінскага камсамола цяпер з поўным правам лічыцца ледзь не самым папулярным тэатрам Масквы, ды і за яе межамі наўрад ці знойдзецца яшчэ адзін такі ж жывы і плённа працуючы сцэнічны калектыў. Не толькі на прэм'ерах, але і на ўжо даўно ўключаных у рэпертуар спектаклях у нас аншлаг. У Парыжы на працягу 28 дзён мы паказвалі «Юнону і Авось» — і ні разу ў зале не было ніводнага пустога месца.

— Ваша новая работа ў кіно?

— Роля Сяргея ў фільме «Сышоўшыя з нябёсаў».

# БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ



...Гэта гісторыя пачалася ў час Вялікай Айчыннай вайны, калі гітлераўцы, якія пад ударамі савецкіх войск паспешліва пакідалі акупіраваны прыморскі горад і не паспелі вывезці свой архіў, схавалі дакументы ў спецыяльна абсталяваным тайніку. З таго часу мінула некалькі дзесяцігоддзяў. І вось былы фашысцкі найміт, нейкі Сямён Пайгін, які ўжо многія гады жыве за межамі СССР пад імем Сэма Пейджа, прапанаваў рэзідэнту заходняй разведкі расканерсерваваць гэты тайнік і, завалодаўшы схаванымі ў ім спісамі гітлераўскіх агентаў, прымусіць іх працаваць на новых гаспадароў.

Пайгін спадзяецца знайсці архіў з дапамогай свайго брата Рамана, былога паліцая, які некалі дапамагаў немцам абсталяваць тайнік. Раману Пайгіну ўдалося скрыць сваё мінулае, і цяпер ён жыве і працуе ў родным горадзе. Пад выглядам замежных турыстаў у гэты горад прыязджаюць Пайгін-Пейдж і двое агентаў. Пачынаецца паляванне за дакументамі з імёнамі тых, хто запляміў сябе супрацоўніцтвам з акупантамі...

Каляровую мастацкую стужку «Без тэрміну даўнасці» зняў на кінастудыі «Масфільм» рэжысёр Эдгар Хаджыкян па сцэнарыю Станіслава Гагарына і Уладзіміра Кузняцова.

У карціне прымаюць удзел вядомыя акцёры — Барыс Шчарбакоў, Пётр Глебаў, Усевалад Сафонаў, Людміла Нільская, Сяргей Прысёлкаў, Усевалад Шылоўскі, Іван Шабалтас, Рубен Сіманаў, Валерый Гатаеў, Юрый Гусеў, Паул Буткевіч, Віктар Шульгін, Юрый Саранцаў, Эрнст Раманаў.

### БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ

История, рассказанная в кинокартине «Мосфильма», началась во время Великой Отечественной войны, когда гитлеровцы, под ударами советских войск поспешно покидавшие оккупированный приморский город и не успевшие вывезти свой архив, спрятали документы в специально оборудованном тайнике. С тех пор прошло несколько десятилетий. И вот бывший фашистский наемник, некто Семен Пайгин, уже многие годы живущий за пределами СССР под именем Сэма Пейджа, предложил резиденту западной разведки расконсервировать этот тайник и, воспользовавшись хранящимися в нем списками гитлеровских агентов, заставить их работать на новых хозяев...

# ПЕРАХОП

...Дастаўшы з кішэні гадзіннік, Максвел націснуў адну з кнопак, што знаходзілася збоку ад цыферблата: пачуўся тонкі, перарывісты піск.

— Цераз спадарожнік сувязі гэты сігнал прыйдзе да мяне,— Максвел паказаў капітану войск спецыяльнага прызначэння ЗША Брустэрну свой гадзіннік.— Ён дакладна такі ж. Націсніце гэту кнопку, калі пяройдзеце граніцу. Потым — у аэрапорце, калі забераце сумку. І трэці раз — непасрэдна перад акцыяй. Гэта будзе сігналам да вашай эвакуацыі.

— Я зразумеў, сэр,— адказаў Брустэрн, прымаючы гадзіннік.

— Націсніце крайнюю левую кнопку,— сказаў Максвел.

Брустэрн выканаў просьбу: гадзіннік выдаў працяглы сігнал.

— Гэта сігнал трывогі,— растлу-

мачыў Максвел.— Спадзяюся, ён вам не спатрэбіцца.

Брустэрн прамаўчаў...

Гэта сцэна з каляровай мастацкай кінакарціны «Перахоп», створанай рэжысёрам Сяргеем Тарасавым па сцэнарыю Яўгенія Месяцава. Яна ў вострадынамічнай форме расказвае пра подзвіг савецкага пагранічніка мічмана Бахцеева. З прычыны ўзнікшых абставін ён вымушан адзін, без дапамогі таварышаў, праследаваць дыверсанта, што пранік на тэрыторыю Савецкага Саюза.

Малады чэкіст Аляксей Бахцееў змагаецца са спецыяльна падрыхтаваным, спрактыкаваным агентам замежнай разведкі Брустэрнам. У гэтым паядынку з асаблівай сілай праяўляецца характар Бахцеева, адкрываецца веліч яго подзвігу.

На ролі галоўных герояў С. Тарасаў выбраў акцёраў моцных і яркіх. Брустэрна іграе Уладзімір Мяньшоў (ён пачынаў сваю акцёрскую кар'еру ў фільме «Чалавек на сваім месцы», за што быў прызнан лепшым акцёрам на Усесаюзным кінафестывалі), а роля мічмана дасталася Андрэю Растоцкаму, які ў нашай свядомасці асацыіруецца з рамантычнымі героямі гістарычных стужак.

— Я вельмі люблю фільмы гістарычнага жанру і люблю ў іх здымацца,— гаворыць А. Растоцкі.— Іграць чалавека моцнага, смелага, які актыўна змагаецца са злом, пагадзіцеся, гэта прыемна. Мой новы герой — марскі савецкі пагранічнік — атрымаў загад прасачыць маршрут парушальніка. Але абставіны складваюцца так, што... — Тут Растоцкі спыніўся: — А рэжысёр вам сказаў, чым заканчваецца фільм? Не? Правільна. Сакрэт раскрываць не трэба. Пачакайце крыху, і самі ўсё ўбачыце.

Да гэтых справядлівых слоў застаецца толькі дадаць, што ў фільме здымаліся таксама Яна Друзь, Леанід Кулагін, Альгімантас Масюліс, Барыс Хмяльніцкі, Мікалай Мярзлікін, Юрый Гусеў і іншыя.

### ПЕРЕХВАТ

Цветная художественная кинокартина, созданная на «Мосфильме», в остродинамичной форме рассказывает о подвиге советского пограничника, мичмана Бахтеева. В силу сложившихся обстоятельств он вынужден один, без помощи товарищей, преследовать опытного диверсанта, проникшего на территорию Советского Союза.

# КАРОТКІЯ СУСТРЭЧЫ

Гэта мастацкая кінакарціна была пастаўлена на Адэскай кінастудыі ў 1967 годзе рэжысёрам Кірай Муратавай па сцэнарыю, напісанаму ёю ў садружнасці з Леанідам Жухавіцкім.

У карціне ярка раскрылася індывідуальнасць Кіры Муратавай, яе прыхільнасць да маральнай тэматыкі, улюбёнасць у складаную прозу жыцця, імкненне філігранна — да правільнасці кожнай лініі і штрыха — увасобіць яе на экране.

...Валянціна Іванаўна, якую іграе сама Кіра Муратава, працуе ў гарсавеце, займаецца будзённай прозай — водазабеспячэннем, жыллём і ўвесь час чакае свайго каханага мужа, які большую частку часу знаходзіцца ў геалагічных экспедыцыях. І вось у доме, у жыцці яе з'яўляецца маладая вясковая дзяўчына Надзя, і аказваецца, што яна таксама кахае мужа Валянціны Іванаўны, і ён Надзю ўвагай не абышоў, але аб гэтым ведаем толькі мы, гледачы, а Валянціна Іванаўна аб гэтым нічога не ведае.

Партнёр Муратавай у галоўным акцёрскім дуэце — Уладзімір Высоцкі. Тут акцёру яшчэ няма і трыццаці. У кіно створаны толькі першыя ролі, і сярод іх — радыст Валодзя ў «Вертыкалі». Запісана першая пласцінка. У Тэатры на Таганцы сыграны Галілей, Маякоўскі, Хлапуша. У Высоцкім, у самой яго асобе, песнях, духоўным аблічы Кіра Муратава дакладна ўгадала героя новага пакалення: мужнага, бескампраміснага, які ставіцца з пагардай да балбатні і казёншчыны, а цэніць вышэй за ўсё дружбу, свабоду, вышыню ўчынкаў і пачуццяў.

Роля Надзі — першая работа Ніны Русланавай.



Надзя — арт. Ніна Русланава, Максім — арт. Уладзімір Высоцкі.

### КОРОТКИЕ ВСТРЕЧИ

Эта художественная кинокартина была поставлена на Одесской киностудии в 1967 году. В главных ролях — режиссер фильма Кира Муратова и Владимир Высоцкий.

...Валентина Ивановна, которую играет сама Кира Муратова, работает в горсовете, занимается будничной прозой — водоснабжением, жильем и все время ждет своего любимого мужа, который большую часть времени проводит в геологических экспедициях. И вот в доме, в ее жизни появляется молодая деревенская девушка Надя, и оказывается, что она тоже любит мужа Валентины Ивановны, и он Надю вниманием не обошел, но об этом знаем лишь мы, зрители, а Валентина Ивановна об этом ничего не знает...

# НЕЗВЫЧАЙНЫ КАНЦЭРТ

**Адну з галоўных роляў у фільме «Кароткія сустрэчы» выканаў Уладзімір Высоцкі. На наш погляд, лепш зразумець гэтага яркага акцёра і чалавека, выдатнага спевака, паэта, майстра аўтарскай песні дапамогуць успаміны асістэнта рэжысёра кінастудыі «Масфільм» Н. Хаземавай, якія мы ніжэй прыводзім.**

...Мясціны тут былі маляўнічыя. А калі яшчэ ўлічыць, што непадалёку ўцалелі руіны старадаўняга палаца, то можна было смела сказаць — натура для здымак фільма «Маленькія трагедыі» рэжысёра М. Швейцэра была выбрана ідэальная.

Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі ў гэтых сцэнах быў заняты не многа, але ведаючы пра яго напружаную працу ў тэатры, здымалі хутка. Заставалася маленькая сцэнка — праход на агульным плане сярод палацавых руін.

Здымка павінна была быць рэжымнай, гадзіны ў чатыры раніцы, таму ў Маскву вырашылі не вяртацца і заначаваць тут.

У групе аб'явілі перапынак. Разгрыміраваўшыся і пераапрануўшыся, акцёры пацягнуліся ў пасялковую сталовую, якую спецыяльна для нас вырашылі не зачыняць яшчэ гадзіну-другую.

Пад начлег адвялі нам аднапавярховую будыніну барачнага тыпу — інтэрнат школы механізатараў, навучэнцы якой выехалі на летнюю практыку.

Я зазірнула ў прыадчыненыя дзверы маленькага пакойчыка: скінуўшы туфлі, Валодзя ляжаў з заплюшчанымі вачамі зверху байкавай коўдры.

— Пайшлі вячэраць — сталовую зачыняць.

Ён усміхнуўся, не адкрываючы вачэй, папрасіў:

— Прыхапі мне чаго-небудзь...

Вяртаючыся са сталовай, я заўважыла на палянцы перад інтэрнатам групу хлопцаў і дзяўчат — на выгляд старшакласнікаў. Яны аб нечым ажыўлена спрачаліся.

Валодзя сядзеў на ложку і шнураваў туфлі.

— Дзякуй, Нін,— усміхнуўся ён мне.— Пальеш? Ваду перакрылі, памыцца няма чым.

Я паклала на стол прадукты, і мы выйшлі на ганак. Валодзя паставіў на прыступак вядро, даў мне конаўку і, скінуўшы футболку, выгнуў спіну.

Ён фыркаў, смяяўся, абдаючы мяне пырскамі, вымачыў свае штаны ледзь не да каленяў. Рэшткі вады я выліла прама з вядра ў яго коўшыкам складзеных далоні.

Валодзя выпрастаўся, уставіўся на мяне:

— Ручнік... Фу ты чорт, забыўся!

Я пабегла ў яго пакой. Ручнік чамусьці завязалі вузлом на спінцы ложка, і пакуль я яго адвязвала, Валодзя з ганка знік.

Ён ужо стаяў з юнакамі на палянцы і, усміхаючыся, прамакаў мокрае цела футболкай. Выслухаўшы іх, Валодзя кіўнуў, паціснуў усім рукі і накіраваўся да дома...

І вось гэты канцэрт... Гледачоў было мала — толькі тыя пятнаццаць хлопцаў і дзяўчат, што чакалі яго на палянцы, і зала ад гэтага здавалася ўнушальна пустой, хоць была ўсяго месцаў на сто.

Усе мы ўладкаваліся ў цэнтры двух першых радоў. Не было нашых масфільмаўскіх — ніхто не думаў, што Валодзя будзе сёння спяваць. А прыйшоў ён сюды прама з палянкі, толькі прыхапіўшы гітару і змяніўшы футболку на кашулю з доўгімі рукавамі.

Яму вынеслі крэсла, ён усміхнуўся нам і заспяваў. Песня была спакойнай, нават нейкай лірычнай, без таго асаблівага рытму, уласцівага большасці яго песень, і нават без славутага гартаннага хрыпу.

Здавалася, ён спяваў цяпер для сябе — так, каб чуваць было толькі нам, што сядзелі за два-тры метры ад яго.

Замест некаторых куплетаў ён часам проста напяваў няхітры матыў, усміхаючыся гледачам,— відаць, песня была яшчэ загатоўкай, і словы яе, ды і сама мелодыя толькі з'яўляліся на свет. А можа ён цалкам імправізаваў, і на нашых вачах нараджалася новая песня? Можа...

Спяваў ён, не адрываючы вачэй ад струн, не рысуючыся сваёй адлучанасцю, а так, як быццам даваряў нам свае думкі, дастаючы іх аднекуль з самых патаемных куткоў сваёй душы.

Мы сядзелі, стаіўшы дыханне, баючыся павярушыцца, павярнуць галаву, каб нічым не патрывожыць гэтых чарадзейных імгненняў.

Не ведаю, колькі мінула часу, пакуль ён спяваў: дзесяць мінут, дваццаць, магчыма, паўгадзіны? Не ведаю.

Нарэшце, ён адарваўся ад гітары, падняў галаву. Але глядзеў не на нас, а некуды ў залу, цераз нашы галовы, падняўся з крэсла і шырока ўсміхнуўся.

Я павярнулася і не паверыла сваім вачам: зала была поўная народу. Тоўпіліся ў праходах, стаялі ў некалькі радоў, абляпілі падаконнікі, згрудзіліся ў дзвярах — тут было цяпер не сто, не дзвесце чалавек, а можа пяцьсот, не менш. Як удалося ім так набіцца сюды, не патрывожыўшы песні, без адзінага гуку, шуму, скрыпу,— гэта застаецца для мяне загадкай і па сённяшні дзень.

Гледачы не сядзелі — усе стаялі, адкінуўшы сядзенні, і — дзіўная справа! — маўчалі. Маўчалі да таго часу, пакуль Валодзя не ўскінуў рукі з гітарай над галавой...

Гэта былі не проста апладысменты — гэта быў нейкі шквал гукаў: акустычная хваля небывалай сілы абрушылася на сцэну і, здавалася, саб'е, расцісне сваёй магутнасцю спевака з высока паднятай у руцэ гітарай...

Далёка за поўнач пакінуў сцэну Валодзя. Гледачы яшчэ доўга сядзелі ў зале — сядзелі моўчкі, сканцэнтравана, задуменна, як бы спадзеючыся яшчэ на тое, што спявак выйдзе да нас яшчэ раз.

За кулісамі, падаючы тэрмас, я напомніла:

— Праз гадзіну на грым, Уладзімір Сямёнавіч, не забылі?

— Памятаю,— стомлена адказаў Валодзя і, выцягнуўшы ногі, зручней уладкаваўся ў старэнькім венскім крэсле з адламанымі падлакотнікамі. Ён закрыў вочы і адключыўся. Да самай рэжымнай здымкі, якая пачыналася ў чатыры раніцы.

Я выйшла з клуба. Вакол яго, аблітыя месяцавым святлом, стаялі грузавікі з пустымі кузавамі. Машын было шмат, не злічыць — роўна столькі, каб прывезці на канцэрт і развезці па палявых станах і брыгадах усіх гледачоў, якім толькі што пашчасцілася стаць сведкамі цуда.

# КРУГА

Кінарэжысёр Лана Гагаберыдзе зняла на кінастудыі «Грузія-фільм» каляровую мастацкую кінакарціну «Кругаварот». Яе сцэнарый напісалі Заіра Арсенішвілі і Лана ГагаберЫдзе. У фільме непарыўна перапляліся некалькі лёсаў, складаных і розных.

Вось што сказала Лана Гагаберыдзе ў кароткім інтэрв'ю наконт свайго фільма.

— Перш за ўсё, пра што новая карціна?

— У наш складаны час, калі ўзрасла занятасць людзей і, як вынік, іх раз'яднанасць, неабходна не даць душы зачарсцвець, захаваць яе адкрытай для дабра, кахання, бескарыслівых чалавечых зносін. Трэба памятаць аб адказнасці перад сваім народам, перад мінулым і будучым, перад самім сабой. Гэта — асноўная праблема ўсіх маіх карцін.

— Вы — адзін з найбольш прызнаных майстроў «жаночай» тэмы ў кіно, не так даўно ўдзельнічалі ў рабоце міжнароднага сімпозіума «Жанчына ў сучасным свеце», які праходзіў у Японіі. Якія, з вашага пункту гледжання, праблемы стаяць перад нашай сучаснасцю?

— Жанчына ў дваццатым стагоддзі стала самастойнай. Яна — паўнапраўны ўдзельнік грамадскага жыцця. І ў той жа час ніхто не вызваліў яе ад святога права і нялёгкага абавязку быць жонкай, гаспадыняй, маці. Ніхто не адняў уласцівую ёй патрэбнасць

## Акцёры новых фільмаў

# ЛЕЙЛА АБАШЫДЗЕ

Лейла Абашыдзе яшчэ ў дзіцячым узросце праявіла сябе як таленавітая камедыйная актрыса. Дзесяцігадовай дзяўчынкай яна была запрошана вядомым грузінскім рэжысёрам Піпінашвілі здымацца ў кінафільме «Каджана». Тут на рэдкасць пераканаўча яна выканала ролю дураслівай Като — то гарэзлівай свавольніцы, то мяккай, любячай сястры, якая пакутуе і перажывае за брата. Ужо тады маленькая актрыса паказала прыроджаную здольнасць выражаць свае пачуцці і позай, і жэстам, і тварам, і «размовай вачэй».

Гэтыя якасці забяспечылі ёй новы бліскучы поспех пасля заканчэння кінафакультэта тэатральнага інстытута імя Шата Руставелі, калі яна ў карціне «Страказа» сыграла ролю маладой, бесклапотнай і вясёлай дзяўчыны Марынэ, якая пад уплывам кахання мяняе свой характар. На маладую актрысу звярнулі ўвагу кінематаграфісты. Спецыяльна для яе быў напісан сцэнарый фільма «Заноза». Ёй трэба было стварыць вобраз дзяўчыны-шафёра Ліі, якая па задуме павінна была сапсаваць нямала крыві ўсякім бюракратам і руцінёрам.

Іменна пасля выканання гэтай ролі Лейла Абашыдзе стала адной з папуляр-

# ВАРОТ

быць каханай, мець у жыцці надзейную апору, вернага сябра, гэтак жа неабходнага сёння, як і стагоддзе назад. Прырода жанчыны мяняецца больш паволна, чым яе сацыяльная роля. Гэты складаны працэс я прабавала адлюстраваць у фільме «Дзень даўжэй за ноч», які расказвае аб адным доўгім жаночым жыцці, і ў «Некалькіх інтэрв'ю па асабістых пытаннях»... Гаворыцца аб ім і ў новай карціне. Галоўныя яе героі — жанчыны чатырох пакаленняў.

— З кім нам давядзецца сустрэцца ў фільме?

— У карціне занята цэлае сузор'е вядомых грузінскіх акцёраў — Лейла Абашыдзе, Мегі Цулукідзе, Лія Эліява, Мераб Нінідзе, Гуранда Габунія, Атар Мегвінетухуцэсі, многія іншыя. Сустрэнуцца гледачы і з дэбютантамі.

### КРУГОВОРОТ

Вот что говорит об этом фильме его режиссер Лана Гогоберидзе, которую мы знаем по кинокартине «Несколько интервью по личным вопросам» и другим лентам киностудии «Грузия-фильм».

— В наше сложное время, когда возросла занятость людей и, как результат, их разобщенность, необходимо не дать душе зачерстветь, сохранить ее открытой для добра, любви, бескорыстного человеческого общения. Нужно помнить об ответственности перед своим народом, перед прошлым и будущим, перед самим собой. Это — основная проблема всех моих картин. А поскольку она неисчерпаема, тема эта, думаю, станет главной и в тех фильмах, которые мне еще предстоит создать.

Главные герои нового фильма — женщины четырех поколений.

**Манана — арт. Лейла Абашыдзе.**





нейшых актрыс рэспублікі. Ёй тады здавалася, што яна знайшла сваё амплуа ў мастацтве, і яна гаварыла сваім родзічам і знаёмым:

— Мне цяпер хочацца заўсёды весяліцца, скакаць накшталт страказы і весяліць усіх да знямогі.

Аднак ужо наступныя ролі выклікалі ў яе больш глыбокую цікавасць да ўнутранага свету чалавека, да герояў драматычнага плана.

Гэта новая якасць і з'явілася вызначальнай, калі вядомы грузінскі рэжысёр Сіко Далідзе прапанаваў ёй галоўную ролю ў фільме «Сустрэча з мінулым». Лёс гераіні, якая перажыла шмат нягод, гора, уніжэнняў і ўсё ж выстаяла ва ўсіх жыццёвых бурах, дала актрысе матэрыял для раскрыцця багатага і цікавага вобраза.

Новая работа Лейлы Абашыдзе паказала, наколькі шматгранная, незвычайная па шырыні і разнастайнасці творчасць гэтай яшчэ маладой актрысы. Але ўсеагульнае прызнанне да яе прыйшло пасля выканання галоўнай ролі ў карціне «Чаканне», у якой яна выступіла не толькі як актрыса, але і як адзін з аўтараў сцэнарыя.

— Актрыса напісала сцэнарый? Гэта можа здацца дзіўным,— гаварыла яна тады.— Але мяне настолькі ўсхвалявала тэма, настолькі блізкая была мне гераіня, што я не змагла не працаваць над гэтай рэччу. Пасля «Сустрэчы з мінулым» я паверыла ў свае сілы драматычнай актрысы, з аблягчэннем адчула, што ярлык «камедыйная» не абмяжоўвае мяне больш і таму над сцэнарыем і над роляй працавала з поўнай аддачай, цікава, цяжка, часам пакутліва...

Аб тым, што гэта была адна з вельмі цяжкіх драматычных роляў, відаць са зместу фільма. Ва ўдавы Кетэван было тры сыны. Адправіла яна першых двух на фронт і так і не дачакалася ад іх весткі: дзве пахавальныя прынёс паштальён. Надышла чарга трэцяга сына, Мамукі, выканаць свой грамадзянскі абавязак. Пайшоў ён. Мінаюць дні, месяцы. Не стамляюцца чакаць вестак з фронту Кетэван і юная Хатуна...

Вось ужо амаль 50 гадоў здымаецца ў кіно Лейла Абашыдзе. У драмах яна прымушае гледача па-сапраўднаму хвалявацца, прымаць блізка да сэрца лёсы герань, у камедыях яна па-ранейшаму імкнецца на поўную сілу раскрыць камедыйнае гучанне ролі.

У кінакамедыі «Сапраўдны тбілісец і іншыя» ў ролі абуранай жанчыны Л. Абашыдзе стварае разам з іншымі акцёрамі той стыль, які аб'ядноўвае шаснаццаць сюжэтна не звязаных адна з адной навел у цэласны фільм. Адной з нябачных ніцей, якая змацоўвае сюжэты, з'яўляецца смех. Вясёлы, хоць і з ноткамі суму, ён паступова пераходзіць у горкі смех, які асуджае такія заганы, як крывадушнасць, хамства, абыякавасць, беспрынцыповасць.

У гэтай кінастужцы Лейла Абашыдзе яшчэ раз паказала свае неабмежаваныя магчымасці ў творчасці. І тое, што калісьці рабілася навобмацак, цяпер стала ўсвядомленым.

Мінула некалькі гадоў, і глядач зноў убачыў у цітрах імя Лейлы Абашыдзе: у фільме «Вежы маўчаць» яна зноў выступіла ў якасці сааўтара сцэнарыя. І, нарэшце, Л. Абашыдзе знайшла яшчэ адзін спосаб самавыражэння, на гэты раз як рэжысёр. Сумесна з Б. Цуладзе яна паставіла карціну «Тыфліс — Парыж і назад», у якой сыграла і галоўную ролю.

— Я вельмі хвалявалася,— гаварыла Л. Абашыдзе,— напярэдадні, як быў суд гледачоў. Аб сваёй акцёрскай ролі ў карціне магу сказаць, што работа над вобразам Тэі для мяне была надзвычай захапляючай. Жанр твора не павінен абмяжоўваць акцёрскія магчымасці, ці то гэта камедыя, трагедыя або псіхалагічная драма. У жыцці ж усё суседнічае, а значыць мае права і на месца ў сапраўдным мастацтве. Чым больш далёкі вобраз маёй гераіні ад маіх асабістых якасцей, тым для мяне цікавей работа. Такая і Тэя — характар, зусім не падобны на мяне, у якім мудрагеліста сплавіліся самыя розныя рысы. У Тэі няма і намёку на каварства, хоць яе ўчынкі часам прыносяць іншым шмат гора. Яна фантазёрка, у кожным чалавеку прыдумвае тыя рысы характару, якія ёй хацелася б у ім убачыць. Адсюль яе жыццёвыя памылкі.

Сцэнарый фільма напісан Лейлай Абашыдзе ў сааўтарстве з Леванам Чэлідзе.

У новай кінакарціне «Кругаварот» Лейла Абашыдзе выступае як актрыса. Яна стварыла тут запамінальны вобраз Мананы.

# «Летапіс» — творчае аб'яднанне кінастудыі «Беларусьфільм»

### ЯКАЯ ЯНА, МАНГОЛІЯ

Шлях, роўны стагоддзям, прайшла дружалюбная Манголія за 65 гадоў народнай улады. Гэты гістарычны шлях дружалюбнага нам народа вывеў яго са спрадвечнай адсталасці, у літаральным сэнсе ўзняў да касмічных вышынь.

Пра гэты шлях і расказвае фільм «Якая яна, Манголія» — сумесная работа кінематаграфістаў Беларусі і Манголіі (аўтары сцэнарыя А. Кудраўцаў, С. Эрдэнэ, рэжысёры У. Шаталаў, Ч. Гамбо, аператар У. Шаталаў).

Першы мангольскі касманаўт І. С. Гурагча, які здзейсніў касмічны палёт у складзе савецка-мангольскага экіпажа, прымаючы ўдзел у фільме, гаворыць: «У дзяцінстве я вельмі любіў ўскочыць на каня і ганяцца за ценямі воблакаў, што беглі па далінах і ўзгорках... Ці мог я тады ўявіць, што вырасту і ўзнімуся не толькі над воблакамі, а і над усёй Зямлёй, убачу сваю Манголію з космасу...».

Гэта стала магчыма, як падкрэслівае фільм, дзякуючы народнай уладзе МНР, дзякуючы непарушнай дружбе і цеснаму супрацоўніцтву ва ўсіх галінах з нашай краінай.

Карціна дае гледачам магчымасць не толькі зрабіць своеасаблівы экскурс у гісторыю Манголіі, але і ўбачыць, як жыве брацкая краіна сёння. Сучасныя гарады і пасёлкі, людзей, якія будуюць новае жыццё, маладое пакаленне Манголіі — усё гэта мы ўбачым у фільме.

### КОЛЬКІ КАШТУЕ ФУНТ РОБАТА

Сёння, у эпоху навукова-тэхнічнага прагрэсу, цяжка ўявіць хоць бы адну галіну вытворчасці, дзе б не працавала робататэхніка. Робаты дапамагаюць канструяваць станкі, кіруюць вытворчасцю, яны аблягчаюць працу чалавека, а часта і замяняюць яго там, дзе неабходна вельмі вялікая дакладнасць.

Пра гэта расказвае новая стужка беларускіх кінадакументалістаў (аўтары сцэнарыя В. Сівакоў, А. Хадзікаў, рэжысёр А. Рудэрман, аператар Ю. Гарулёў).

...Мы — на складзе прадукцыі аб'яднання «Баранавічыдрэў». Здавалася б, ну якія адносіны да такой вытворчасці мае рабатызацыя!

Перш чым адказаць на ўсе пытанні, аўтары фільма прызнаюцца, што карціну яны вырашылі прысвяціць імёна работнікам аб'яднання.

Пра ролю робатаў на вытворчасці ў фільме разважаюць рабочыя, інжынеры, эканамісты, кіраўнікі розных прадпрыемстваў, на якіх працуюць робаты. Мы ўбачым, як прымяняецца робататэхніка ў розных галінах прамысловасці рэспублікі, пераканаемся, што яна сама ўсталёўвае свае права ўдзельнічаць у сучаснай вытворчасці.

### ПУЦЯВЫЯ МАШЫНЫ — СВАІМІ СІЛАМІ

Вопыт беларускіх чыгуначнікаў шырока вядомы і атрымаў вялікае пашырэнне на іншых чыгунках краіны. І ён пастаянна ўзбагачаецца, чыгуначнікі шукаюць новыя шляхі і формы ўдасканалення сваёй работы. Гэта не толькі новыя формы абслугоўвання пасажыраў, не толькі новыя формы брыгад, калектываў, але і імкненне сваімі сіламі ствараць новую тэхніку.

Гэты фільм (аўтар сцэнарыя Ю. Мар'ямаў, рэжысёр Э. Гайдук, аператар І. Каган) расказвае іменна аб вопыце калектыўнай творчасці на прыкладах Беларускай і Прыдняпроўскай чыгунак.

Першы намеснік міністра шляхоў зносін Альберт Мікалаевіч Беўзенка, які прымае ўдзел у фільме, адзначае, што вучоныя стварылі добрыя механізаваныя комплексы пуцявых машын, якія забяспечваюць вялікую прадукцыйнасць на рамонце пуці. Гэта ўжо дазволіла выслабаніць ад работ, якія вядуцца ўручную, вялікую колькасць людзей. І што прыемна, у бліжэйшы час выпуск такіх машын павялічыцца ў шэсць разоў. Але тым не менш, як лічаць чыгуначнікі, яны не павінны сядзець склаўшы рукі. Яны маюць намер, выкарыстоўваючы магутнасці сваіх заводаў, сваімі сіламі павялічыць выпуск машын, пуцявога інструменту і г. д.

Больш таго, шмат такіх машын і механізмаў ужо працуе на Беларускай чыгунцы. Мы ўбачым іх у дзеянні, пазнаёмімся з іх стваральнікамі, з многімі рацыяналізатарамі і наватарамі, якія сваёй працай паскараюць навукова-тэхнічны прагрэс на чыгунцы.

### СУЗОР'Е

Так называецца фільм (аўтар сцэнарыя У. Даўжэнка, рэжысёр С. Лук'янчыкаў, аператар І. Каган) аб традыцыях мінскай шашачнай школы, пра заслужанага трэнера СССР Міхаіла Аляксандравіча Каца, які выхаваў трох чэмпіёнаў свету. У фільме здымаліся яго выхаванцы, у прыватнасці, міжнародныя гросмайстры Алена Альтшуль, Ірына Пашкевіч, Зоя Садоўская, Людміла Сахненка.

...Мінскі палац шахмат і шашак. Мы — сведкі матча на званне чэмпіёнкі свету па міжнародных шашках. Гуляюць нашы зямлячкі — пяціразовая чэмпіёнка свету Алена Альтшуль і прэтэндэнтка Зоя Садоўская. Кароткае інтэрв'ю перад гульнёй. Зоя Садоўская прызнаецца, што спартыўных паражэнняў яна не баіцца, лічыць, што яны павінны выхоўваць. Так, бываюць і жыццёвыя паражэнні, на яе думку, з іх таксама трэба атрымліваць урокі, не адчайвацца.

Ну што ж, як бачым, прэтэндэнтка — аптымістка. А яе сапerніца!

Алена Альтшуль ніколі аб паражэннях не думае. Паводле яе прызнання, яна гуляе матч, каб выйграць.

Гэта значыць, што матч абяцае быць захапляючым...

Аўтары фільма імкнуцца пранікнуць ва ўнутраны свет спартсменак, зразумець, што ж дапамагае атрымаць перамогу. Школа ж у спартсменак адна.

# КІН-ДЗ...

Сустрэчы з фільмамі Георгія Данеліі гледачы чакаюць заўсёды. Таму што яго добрыя, іранічныя і крыху журботныя стужкі расказваюць пра нас з вамі, пра нашы справы, праблемы, клопаты. Яго героі не толькі пазнавальныя, яны запамінаюцца і жывуць з намі доўга-доўга.

Новая работа Г. Данеліі незвычайная. Каляровая двухсерыйная мастац-



кая кінастужка «Кін-дза-дза!» пастаўлена рэжысёрам на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыю, напісанаму Рэвазам Габрыядзе ў садружнасці з рэжысёрам.

...Гэта гісторыя пачалася ў адзін звычайны зімовы вечар. Двое прахожых сустрэлі на вуліцы свайго роднага горада... іншапланецяніна, які заблудзіўся ў цёмных завулках. У руках у незнаёмца быў маленькі пульт кіравання. Узрадаваўшыся сустрэчы з зямлянамі, ён пачаў прасіць іх дапамагчы яму вярнуцца на родную планету. Аднак здарылася так, што адзін з прахожых націснуў не на тую кнопку пульта, і ўсе ўтраіх апынуліся на таямнічай планеце Кін-дза-дза...

Аб тым, што адбудзецца з зямлянамі далей, вы і даведаецеся, паглядзеўшы фільм. Ён зроблен у жанры фантастычнай камедыі. Падзеі разгортваюцца так, што двое зямлян (іх ролі выконваюць Станіслаў Любшын і грузінскі школьнік Леван Габрыядзе) пабываюць не толькі на планеце Кін-дза-дза, на якой жывуць істоты дзвюх рас: вышэйшай — чатлане і ніжэйшай — пацакі.

Зямляне не маглі прайсці міма ўбачанай імі сацыяльнай несправядлівасці. Яны прабавалі даказаць братам

# А-ДЗА!

па розуму, што розніцы паміж чатланамі і пацакамі няма, што ўсе яны — браты. Але гэта быў сапраўды голас адзінокага ў пустыні. Не раз бяда навісала над галовамі герояў...

Разам з героямі карціны гледачы пабываюць і на планеце, дзе ўсіх дрэнных людзей ператвараюць у кветкі. А дапамогуць нам зрабіць гэта фантастычнае падарожжа папулярныя акцёры Яўгеній Ляонаў, Юрый Якаўлеў, Ірына Шмялёва, Вольга Машная, Леў Пярфілаў і іншыя.





Дэконт — арт. Вольга Машная, Абрадокс — арт. Георгій Данелія.

Ландшафт планеты Кін-дза-дза здымачная група знайшла ў туркменскай пустыні за дзве гадзіны язды ад бліжэйшага населенага пункта.

Георгій Данелія з аператарам Паўлам Лебешавым прыдумвалі воблік планеты і яе насельнікаў, увесь час фантазіруючы. Напрыклад, яны ўбачылі, што адзенне, прывезенае з «Масфільма», не ўпісваецца ў антураж, у ім няма фантастычнай «іскрынкі». Па ходу справы знаходзіліся нейкія кавалкі скуры, мешкавіны, каляровыя шматкі, дэталі аднаго адзення перашываліся да іншага. А ўвечары ў гасцінічным нумары рэжысёр гэтак жа перакройваў сцэнарый, перапісваў дыялогі, забастраў сітуацыі.

І вось цяпер мы ўбачым вынікі гэтай напружанай работы.

### КИН-ДЗА-ДЗА!

События этой необычайной кинокартины, созданной на «Мосфильме», начались одним обычным зимним вечером. Двое прохожих встретили на улице своего родного города... инопланетянина, который заблудился в темных переулках. В руках у незнакомца был маленький пульт управления. Обрадовавшись встрече с землянами, он стал просить их помочь ему вернуться на родную планету. Однако случилось так, что один из прохожих нажал не на ту кнопку пульта, и все трое оказались на неведомой планете Кин-дза-дза...

О том, что произойдет с землянами дальше, вы и узнаете, посмотрев фильм. Он решен в жанре фантастической комедии.

## Стваральнікі новых фільмаў

# ГЕОРГІЙ ДАНЕЛІЯ

Звычайна ў дзяцінстве ва ўсіх «вырашана» пытанне — кім быць. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца прафесіі лётчыка, шафёра або пажарніка. Ці думаў Георгій Данелія ў дзяцінстве аб тым, што будзе працаваць у кіно? Аказваецца,— не. Хоць трэба сказаць, што сустрэча з кіно ў яго адбылася ўжо ў раннім дзяцінстве — мама Георгія Мікалаевіча, М. Анджапарыдзе, працавала тады памочнікам рэжысёра на кінастудыі «Грузія-фільм». Потым на «Масфільме» яна зняла самастойна тры карціны — «Анюта», «У дарозе», «Слухай!». У час здымак «Георгія Саакадзе» маленькі Данелія зняўся ў адным эпізодзе разам з Сярго Закарыядзе. Праўда, гэты эпізод у фільм не ўвайшоў. Так нядаўна закончыўся яго дэбют у кіно. Але Георгій вельмі любіў бываць на здымках, часта ездзіў з мамай у экспедыцыі. Ды і што яшчэ дзіцяці трэба для шчасця, калі вакол коні, зброя, бойкі! Аднак аб прафесіі акцёра ён тады зусім не думаў.

Далей усё адбылося быццам бы без усякай логікі. Адзін з таварышаў Георгія вырашыў паступаць у Маскоўскі архітэктурны інстытут. Георгій паступіў разам з ім. Пасля заканчэння інстытута Данелія займаўся планіроўкай гарадоў, але, як сам прызнаецца, работа гэта не прыносіла яму асаблівага творчага задавальнення.

Займаючыся ў інстытуце і потым працуючы, Георгій Данелія зноў-такі не думаў пра кіно. Неяк выпадкова яму трапіла ў рукі «Литературная газета» з аб'явай аб прыёме на Вышэйшыя рэжысёрскія курсы. І ён вырашыў рызыкнуць. Што з гэтага атрымалася — меркаваць гледачам.

Яму пашанцавала. Вучоба ў вялікіх майстроў — Міхаіла Калатозава, Міхаіла Рома, Сяргея Юткевіча — у многім вызначыла яго фарміраванне як рэжысёра. Але тут трэба вярнуцца крыху назад. Маці Георгія Мікалаевіча — сястра славутай Верыко Анджапарыдзе. І калі ён жыў у Тбілісі, заўсёды бываў у яе сям'і. Дагэтуль з пачуццём вялікай удзячнасці і любві ўспамінае не менш славутага Міхаіла Чыаурэлі.

— Чалавек незвычайнай эрудыцыі і таленту, ён быў дзівосным, проста чароўным расказчыкам, падобных да якога я больш не сустракаў. Пры гэтым ён не толькі расказваў, але і паказваў. Гэтыя нашы сустрэчы, своеасаблівыя ўрокі майстэрства, я запомню на ўсё жыццё...

Фільмы народнага артыста РСФСР, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і РСФСР Георгія Данеліі шырока вядомы. «Сярожа», пастаўлены разам з І. Таланкіным, «Шлях да прычала», «Я крочу па Маскве», «Трыццаць тры», «Не бядуй!», «Зусім прапашчы», «Афоня», «Міміно», «Слёзы капалі» і «Асенні марафон» — кожны з іх быў цёпла прынят, выклікаў вялікую цікавасць. Фільмы Г. Данеліі гледачы чакаюць з нецярплівасцю, бо сустрэча з імі заўсёды нясе нешта новае, прымушае аб многім задумацца.

— Георгій Мікалаевіч, вашы фільмы заваёўвалі многа прызоў на міжнародных і ўсесаюзных кінафестывалях. Колькі ж усяго?

— Я нядаўна сам пацікавіўся. Налічыў сорак два.

— Сорак два прызы... За дзесяць фільмаў? Ці магчыма гэта?

— Давайце возьмем, напрыклад, адзін з іх — «Асенні марафон». У Венецыі — два прызы прэсы (афіцыйных прызоў на фестывалі не было): першы — за лепшы фільм фестывалю, другі — за лепшае выкананне мужчынскай ролі. На фестывалі ў Сан-Себасцьяне — Галоўны прыз «Залатая ракавіна». На фестывалі камедыйных фільмаў у французскім горадзе Шамбурсі — Галоўны прыз. На фестывалі працоўных у Чэхаславакіі — Галоўны прыз. На Усесаюзным кінафестывалі ў Душанбе — Галоўны прыз. Гэта толькі за адзін фільм.

— А ваш новы фільм — таксама камедыя?

— Будуць смяяцца — значыць камедыя,— паціскае плячамі Данелія.— Асабіста ў мяне няма намеру смяшыць публіку. Я заўсёды стаўлю сур'ёзныя фільмы. Але вось парадокс: што б ні здымаў, гэта ўсё роўна станавілася камедыяй.

# ЛЕДЗЯНЫЯ КВЕТКІ

— БАМ — гэта не толькі гіганцкая будоўля, але і багатая, насычаная разнастайнымі фактамі і падзеямі гісторыя,— гаворыць рэжысёр-пастаноўшчык фільма «Ледзяныя кветкі» Юрый Тупіцкі.— Асновай нашага фільма стаў расказ аб людзях, непасрэдных удзельніках вялікай будоўлі. У цэнтры ўвагі — маральныя пытанні станаўлення асобы, праблема суіснавання ў мікракалектыве, які трапіў у экстрэмальныя ўмовы.

Падзеі ў карціне адбываюцца ў пачатковы перыяд будаўніцтва, восенню 1974 года. Выбар гэты не выпадковы: іменна ж тады толькі-толькі пачынаў фарміравацца бамаўскі характар — паняцце, якое цяпер увайшло ва ўжытак. Гэта паняцце ўвабрала ў сябе законы таварыскасці і брацтва, высокія маральныя прынцыпы і асаблівыя адносіны да працы. Носьбітам гэтых лепшых рысаў нашага сучасніка выступае галоўны герой карціны Іван Зімагляд, для якога праца — гэта норма жыцця, норма паводзін, мерка маралі.

Каляровы шырокаэкранны мастацкі фільм створан на Кіеўскай кінастудыі імя А. Даўжэнкі па сцэнарыю Віктара Гавяды.

У галоўных ролях — Аляксей Булдакоў, Наталля Сумская, Уладзімір Шпудзейка, Марына Федзіна, Анатолій Лук'яненка, Алена Ільенка.

### ЛЕДЯНЫЕ ЦВЕТЫ

БАМ — это не только гигантская стройка, но и богатая, насыщенная разнообразнейшими фактами и событиями история. Основой фильма, созданного на киностудии им. А. Довженко, стал рассказ о людях, непосредственных участниках великой стройки. В центре внимания — нравственные вопросы становления личности, проблема сосуществования в микроколлективе, попавшем в экстремальные условия.



# ТАЙНЫ ПАСОЛ

Малады рэжысёр Халмамед Какабаеў зняў на кінастудыі «Туркменфільм» каляровую шырокаэкранную двухсерыйную мастацкую — стужку «Тайны пасол».

Першая яго карціна — «Вось вернецца тата...» расказвала пра перыяд Вялікай Айчыннай вайны, другая — «Кароткія рукавы» — аб сённяшніх днях. Новая работа, якую, як і папярэднюю, пастаноўшчык ажыццявіў у садружнасці з кінадраматургам Яўгеніем Міцько, звернута ў далёкае мінулае, у канец XVII стагоддзя, калі туркменскія плямёны ўпершыню накіравалі ў Расію свайго пасла. Небяспекі і прыгоды, што выпалі на долю гэтага смелага і разумнага чалавека, які адным з першых зразумеў неабходнасць саюза з Расіяй, і складае сюжэтную канву фільма, які створан па матывах рамана Юрыя Бялова «Вада мёртвая і жывая».

Галоўную ролю пасланніка ўзбекскага народа да Пятра І Хаджанепеса выконвае папулярны ўзбекскі акцёр Нурберды Алабердыеў.

У іншых ролях заняты Уладзімір Някрасаў, Чары Ішанкуліеў, Рыгор Грыгорыу, Ігар Пушкароў, Аляксандр Лазараў, Хаджадурды Нарліеў, Віктар Новікаў, Мікалай Скарабагатаў, Алег Корчыкаў, Любоў Палехіна, Ата Даўлетаў.

**Хаджанепес — арт. Нурберды Алабердыеў.**

### ТАЙНЫЙ ПОСОЛ

События кинокартины, созданной на киностудии «Туркменфильм», обращены в далекое прошлое, в конец XVII века, когда туркменские племена впервые направили в Россию своего посла. Опасности и приключения, выпавшие на долю этого смелого и умного человека, который одним из первых понял необходимость союза с Россией, и составляют сюжетную канву фильма.

# ЛЕС

Каляровая шырокафарматная мастацкая кінакарціна пастаўлена рэжысёрам Уладзімірам Мотылем на кінастудыі «Ленфільм» у 1980 годзе па матывах аднайменнай п'есы А. М. Астроўскага.

Нагадаем яе сюжэт.

Беспрацоўныя акцёры Нешчасліўцаў і Шчасліўцаў, якія сустрэліся ў сваіх блуканнях па Расіі, аказваюцца недалёка ад маёнтка памешчыцы Гурмыжскай. Нешчасліўцаў, якому яна даводзіцца роднай цёткай, вырашае наведаць яе. Аднак старэючая памешчыца не вельмі рада нечаканаму візіту пляменніка: яна засталася вінавата яго нябожчыку-бацьку тысячу рублёў і ўпэўнена, што малады чалавек прыйшоў патрабаваць грошы.

Жыццё ў маёнтку цёткі праходзіць зусім не мірна. Жадаючы выдаць замуж сваю бедную сваячку Аксінню, Гурмыжская запрасіла на лета сына прыяцелькі, гімназіста-пераростка. Але юны жаніх спадабаўся ёй самой. Дзяўчыну гэта мала хвалюе: яна ж кахае іншага — купецкага сына Пятра. Драма ж Аксінні ў тым, што бацька яе каханага адмаўляецца ажаніць сына з беспасажніцай, а Гурмыжская выганяе яе з дому, не даўшы ні граша.

Узнёслы ідэаліст Нешчасліўцаў толькі з цягам часу пачынае разбірацца ва ўсім, што адбываецца. Атрымаўшы ад Гурмыжскай сваю тысячу рублёў, ён, на здзіўленне Шчасліўцава, аддае гэтыя грошы на пасаг Аксінні і такім жа жабраком, якім быў у пачатку нашай з ім сустрэчы, зноў адпраўляецца ў дарогу, каб ніколі сюды не вяртацца.

Галоўных герояў іграюць Людміла Цэлікоўская, Барыс Плотнікаў, Вячаслаў Кірылічаў, Станіслаў Садальскі, Алена Барзова, Міхаіл Пугаўкін, Аляксандр Салаўёў, Віктар Цапаеў.

**ЛЕС**

Цветная широкоформатная художественная картина поставлена на киностудии «Ленфильм» в 1980 году по мотивам одноименной пьесы А. Н. Островского.

...Случайно встретившиеся в своих скитаниях по России безработные актеры Несчастливцев и Счастливцев оказываются неподалеку от усадьбы помещицы Гурмыжской. Несчастливцев, которому она доводится родной теткой, решает навестить ее. Однако стареющая помещица не слишком рада неожиданному визиту племянника: она осталась должна его покойному отцу тысячу рублей и уверена, что молодой человек пришел требовать денег. У Гурмыжской живет ее бедная родственница Аксинья, которая не может выйти замуж, так как не имеет приданого. Идеалист Несчастливцев решает помочь девушке...

# МЫ ВЯСЁЛЫЯ, ШЧАСЛІВЫЯ, ТАЛЕНАВІТЫЯ!

Рэдка ў каго з нас жыццё бывае бязвоблачным, асабліва калі ўзрост набліжаецца да сарака, дзеці становяцца дарослымі, зарплата расце марудна, а на рабоце строгі шэф не даруе нават нязначных памылак. Але мы не здаёмся: самаахвярна змагаемся з бытавымі праблемамі, ваюем з дзецьмі (на іх жа карысць!), выконваем указанні начальства... А каб неяк прыхарашыць тужлівыя дні, стараемся знайсці сабе хобі або захапляемся модным тэорыям (пошукамі «снежнага чалавека», сыраядзеннем, аутагенным трэніроўкай). Іменна такімі і паўстаюць перад намі героі гэтай карціны — нашы сучаснікі.

Галоўныя ролі выконваюць Марына Няёлава, Станіслаў Любшын, Аляксандр Міхайлаў, Алена Дробышава, Рыма Маркава, Сяргей Газараў, Тацццяна Догілева, Маргарыта Крыніцына.

Вытворчасць кінастудыі «Масфільм». Аўтар сцэнарыя — Ала Крыніцына, рэжысёр-пастаноўшчык — Аляксандр Сурын.

Ляля — арт. Марына Няёлава.





Пеця — арт. Аляксандр Міхайлаў.

**МЫ ВЕСЕЛЫ, СЧАСТЛИВЫ, ТАЛАНТЛИВЫ!**

Редко у кого из нас жизнь бывает безоблачной, особенно если возраст приближается к сорока, дети становятся взрослыми, а зарплата растет медленно. Но мы не сдаемся. А чтобы как-то разнообразить унылую вереницу дней, стараемся найти себе хобби. Именно такими и предстают перед нами герои новой картины «Мосфильма» — наши современники.



Клюеў — арт. Станіслаў Любшын, Гаршкова — арт. Маргарыта Крыніцына.

## Акцёры новых фільмаў

# СТАНІСЛАЎ ЛЮБШЫН

Станіслаў Любшын — з тых нямногіх акцёраў, хто ўсім сваім творчым і чалавечым лёсам (прычым, лёсам на рэдкасць удачлівым і шчаслівым) рашуча абвяргае памылковае ўяўленне аб заўсёдным свяце акцёрскай прафесіі, хто нецярпімы да непазбежных, але такіх, здавалася б, прыемных атрыбутаў гэтай прафесіі, як папулярнасць, вядомасць, неабходнасць быць аб'ектам усеагульнай увагі.

Маючы шырокую славу, Любшын застаўся вельмі сціплым і нават сарамлівым чалавекам. Ён дагэтуль не можа прызвычаіцца да таго, што яго пазнаюць на вуліцы, а на спробы журналістаў сустрэцца з ім часцей за ўсё адказвае адмовай.

Акцёрскі лёс Любшына склаўся шчасліва. Першыя ж ролі ў кіно прынеслі яму любоў і папулярнасць гледачоў, увагу рэжысуры. «Трэцяя ракета», «Мне дваццаць гадоў», «Калі твая праўда», «Альпійская балада» — гэтыя і іншыя фільмы адкрылі ў Любшыне новы тып сучаснага акцёра, своеасаблівасць якога — у яго неардынарнасці, акцёра, цалкам пазбаўленага запамінальнай тыпажнасці.

— Станіслаў Андрэевіч, як вы прыйшлі да прафесіі акцёра?

— Пачну здалёк. Нарадзіўся я ў адной з падмаскоўных вёсак. Дзяцінства маё і юнацтва прыпалі на цяжкі ваенны і пасляваенны час з усімі яго нягодамі. Я і мае равеснікі ведаюць, што такое пахавальныя, голад, бачылі ўдоў, апранутых ва ўсё чорнае, але бачылі і людзей, салдацкія гімнасцёркі якіх былі ўвешаны ордэнамі і медалямі. Як мы, хлапчукі, марылі тады быць такімі героямі, здзяйсняць незвычайныя ўчынкі! Мы горача хацелі стаць лётчыкамі, палярнікамі, славутымі спартсменамі. Мне, напрыклад, сніўся баксёрскі рынг. А потым настаўніца нашай школы арганізавала ў вёсцы драмгуртох. З таго часу я захапіўся тэатрам.

Цяпер ужо я і мае сябры па гуртку гадзінамі праседжвалі ля рэпрадуктара. Слухалі спектаклі, літаратурныя перадачы, у якіх чыталі вершы вядомыя на ўсю краіну акцёры. Мы не ведалі тады іх твараў, пазнавалі толькі галасы — тэлевізара ж не было...

Я марыў аб тэатры, але пасля школы пайшоў у тэхнікум і, скончыўшы яго, паступіў у Шчэпкінскае вучылішча пры Малым тэатры.

— Ваша першая роля...

— ...была ў невялікім фільме. У ім расказвалася аб выпадку, які адбыўся ў 1958 годзе ў Курску, калі ў горадзе былі выяўлены міны. Стварыў гэты фільм Андрэй Таркоўскі, тады яшчэ студэнт. Я іграў вадзіцеля бронетранспарцёра. Але ў кадрах, калі паказвалі машыну, якая ехала, бачны былі толькі мае рукі — рукі шафёра, а сказаў я за ўсе сорак мінут толькі адну фразу: «Ну, я паехаў!».

Потым былі фільмы «Мне дваццаць гадоў», «Трэцяя ракета», «Канец свету», «Альпійская балада» і іншыя.

Дарэчы, баксёрам я ўсё ж стаў. Праўда... у радыёспектаклі «Рынг», пастаўленым Савам Кулішам.

— Іоган Вайс... Хто не ведае героя чатырохсерыйнай кінастужкі «Шчыт і меч»! Створаны вамі вобраз савецкага разведчыка гледачы вельмі палюбілі.

— Я доўга рыхтаваўся да гэтай ролі, прачытаў не адну кнігу аб гістарычных падзеях, якія папярэднічалі другой сусветнай вайне, узаемаадносінах паміж краінамі Еўропы ў тыя гады. Перагледзеў шмат дакументальнай хронікі, асабліва звяртаючы ўвагу на тое, як трымаліся, як насілі форму і паводзілі сябе фашысцкія афіцэры. Чатыры месяцы ішла падрыхтоўка да фільма. Потым здымкі — год і тры месяцы. Працавалі ў дзве змены кожны дзень. Уставаў у шэсць, клаўся часцяком у гадзіну-дзве ночы. Стамляўся, вядома, вельмі. Пасля здымак паехаў у лес — адпачываць. А «з лесу выйшаў» толькі праз месяц, каб сыграць у новым фільме «Першае каханне» па І. С. Тургеневу.

Запомніўся акцёр гледачам таксама ў кінастужках «Вялікая руда», «Красная плошча», «Печкі-лаўкі», «Сентыментальны раман», «Маналог», «Ксенія, каханая жонка Фёдара», «Тэма», «Пяць вечароў», «Слова для абароны», «Не страляйце ў белых лебедзяў» і іншых.

— Некалькі гадоў назад вы прыйшлі ў рэжысуру. Раскажыце, калі ласка, аб гэтым.

— Мой прыход у рэжысуру звязан з Васіліем Макаравічам Шукшыным. У творчым і будзённым жыцці Васілій Макаравіч быў надзіва шчодры. Ён шмат пісаў і даваў свае сцэнарыі ўсім, у каго верыў. Так я даведаўся пра яго сцэнарый «Пакліч мяне ў далячынь светлую». Шукшын хацеў і сам сыграць у фільме, выбраўшы для сябе ролю брата Грушы (потым яго іграў Міхаіл Ульянаў).

Пасля смерці Шукшына мы з Германам Лаўровым лічылі сваім абавязкам паставіць гэту карціну. Стварылі спачатку радыёспектакль, а затым выйшлі на здымачную пляцоўку.

Станіслаў Любшын у гэтай карціне — і рэжысёр, і выканаўца ролі «жаніха» Уладзіміра Мікалаевіча.

— Над чым вы працавалі ў апошні час?

— Мая наступная рэжысёрская і акцёрская работа — тэлевізійны фільм «Тры гады» па аповесці А. П. Чэхава, які я здымаў разам з Дзмітрыем Даліііным.

— Вашы новыя акцёрскія работы ў кіно?

— Іграю галоўную ролю ў фантастычнай камедыі Георгія Данеліі «Кін-дза-дза!», а таксама вось заняты ў новым фільме Аляксандра Сурына «Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя!».

**Наш каляндар**

# У СКАРБОНКУ ГУМАРУ

**Кінакамедыя — адзін з самых любімых жанраў у нашых кінагледачоў. Але, на жаль, беларускія кінематаграфісты здымаюць іх рэдка, і сапраўдных удачы, якія можна прылічыць да дасягненняў беларускага кіно, тут літаральна можна пералічыць па пальцах. Сярод іх — карціна «Нашы суседзі», пастаўленая рэжысёрам С. Сплашновым 30 гадоў назад, у 1957 годзе.**

**У кінакамедыі «Нашы суседзі» многа цікавых эпізодаў, удалых рэплік, смешных сітуацый. Не прэтэндуючы на глыбокія абагульненні, яе стваральнікі імкнуліся звязаць пацяшальнае з павучальным, даць магчымасць гледачам не толькі пасмяяцца, але і падумаць.**

**Асноўныя падзеі карціны адбываюцца ў вялікай камунальнай кватэры, дзе жыве некалькі сем'яў. Герой фільма — слесар-зборшчык Сяргей Цярохін атрымаў тут пакой. Ён неўзабаве здолеў выклікаць да сябе сімпатыі жыхароў і закахаўся ў Святлану — дачку сваіх суседзяў Шпакоўскіх. Яе маці, прыняўшы Сяргея за буднога навуковага работніка, вырашыла, што ён — добры жаніх для Святланы і прыклала нямала старанняў, каб наладзіць іх шчасце.**

**Такія камедыйныя канфлікты ўжо не раз сустракаліся ў шэрагу твораў літаратуры, тэатра і кіно. Таму ў «Нашых суседзях» ён мог быць апраўдан толькі пры наяўнасці самабытных, глыбока рэалістычных, яркіх характараў герояў, пры выкарыстанні сітуацый, здольных прымусіць гучаць па-новаму гэты вельмі традыцыйны канфлікт. І гэта стваральнікам фільма ў значнай меры ўдалося.**

**Сярод найбольш значных акцёрскіх удач карціны — работа вопытных майстроў камедыі Г. Глебава і В. Вікланд,**



якія сыгралі ролі мужа і жонкі Шпакоўскіх. Выйгрышны драматургічны матэрыял дапамог таленавітым акцёрам стварыць выразныя, глыбока жыццёвыя камедыйныя вобразы.

Каларытныя ў фільме характары і некаторых іншых персанажаў — дзівакаватага настаўніка Размысловіча (арт. А. Адоскін), ніколі не сумуючага маляра Мурашкі (арт. К. Сарокін), яго хлебасольнай жонкі (арт. Г. Краўчанка). У гэтых вобразах удала спалучаецца камедыйнае і лірычнае.

Менш выразнымі атрымаліся цікава намечаныя характары асноўных персанажаў — Святланы (арт. Н. Карнеева) і Сяргея (арт. Л. Фрычынскі), якія выглядаюць на экране тыпова «блакітнымі» героямі, добра знаёмымі гледачам па многіх падобных фільмах.

Да вартасцей камедыі «Нашы суседзі» адносіцца яе выяўленчае рашэнне. Аператар А. Булінскі зняў карціну з уласцівай яму прастатой і лаканічнасцю. Ясная, выразная манера аператарскай работы ў цэлым адпавядае агульнай жыццярадаснай танальнасці камедыйнага твора.

Прывабным бокам камедыі з'яўляецца музыка, напісаная кампазітарам Б. Макравусавым. Меладычныя, лёгка запамінальныя песні хутка заваявалі папулярнасць сярод гледачоў і да цяперашняга часу часта гучаць па радыё і тэлебачанню.

Фільм «Нашы суседзі», нягледзячы на некаторыя мастацкія пралікі, у цэлым з'явіўся удалай спробай беларускіх кінематаграфістаў расшырыць свой творчы дыяпазон, стварыць на матэрыяле нашай рэчаіснасці вясёлую, жыццярадасную камедыю.

# З РОЗНЫХ ШЫРОТ

### ГЕОРГІЙ БУРКОЎ — РЭЖЫСЁР

Пра сваё новае амплуа папулярны акцёр Георгій Буркоў гаворыць так:

— Узяўся за новую для мяне работу. Стаў рэжысёрам. Разам з Германам Лаўровым па сцэнарыю Ніны Сямёнавай здымаю фільм. У новай якасці адчуваю сябе спакойна, таму што даўно ўжо да гэтага рыхтаваўся.

Не хачу заглядваць у будучае,— працягвае Георгій Буркоў.— Магу толькі сказаць, што па жанру новая карціна задумана як лірычная камедыя. Але хутчэй за ўсё — гэта трагікамедыя з вясковага жыцця. У цэнтры нашай увагі — зараджэнне кахання, яго месца ў жыцці герояў фільма.

### СССР — ІНДЫЯ: НОВЫ СУМЕСНЫ ФІЛЬМ

Вядомы акцёр і рэжысёр Ралан Быкаў і папулярны індыйскі акцёр і кінадзеяч Шашы Капур будуць здымаць сумесную савецка-індыйскую кінакарціну «Чорны прынц» па матывах казак «Тысяча і адна ноч». Здымкі «Чорнага прынца» будуць праходзіць як у Савецкім Саюзе, так і ў Індыі, а адну з галоўных роляў у фільме будзе выконваць адзін з самых папулярных акцёраў Амітабх Баччан, які палюбіўся і савецкім, і індыйскім гледачам па многіх стужках з яго ўдзелам.

У адным з інтэрв'ю Шашы Капур адзначыў, што новая сумесная пастаноўка савецкіх і індыйскіх кінематаграфістаў будзе садзейнічаць далейшаму расшырэнню культурных сувязей паміж народамі нашых краін. Упэўнен, падкрэсліў ён, што гэта будзе найбольш яркая і змястоўная стужка з усіх на гэту тэму.

### НА ЭКРАНЕ — ДЭЛОН-МАЛОДШЫ

Сын Алена Дэлона — Антуан Дэлон (яго маці — Наталі Дэлон — таксама актрыса) спачатку не думаў аб акцёрскай кар'еры. Але вось нядаўна ў замежным друку з'явіліся паведамленні, што Дэлон-малодшы зняўся ў фільме вядомага італьянскага рэжысёра Луіджы Каменчыні «Стрэмка ў сэрцы», дзе выконвае ролю закаханага юнака. Дарэчы сказаць, Ален Дэлон у свой час таксама пачынаў сваю кінакар'еру ў Італіі. Імянна фільм Лукіна Вісконці «Рока і яго браты» прынёс яму сусветную вядомасць.

Антуан лічыць, што ад таго, будзе ці не будзе мець поспех новая стужка, залежыць яго далейшы лёс. «Правал дэбюту акцёру з такім імем не даруюць»,— падкрэсліў ён.

### ФЕДЭРЫКА ФЕЛІНІ МАЛЮЕ...

«Чаму я малюю персанажаў сваіх фільмаў? Чаму раблю накіды твараў, насоў, вусоў людзей, якія заходзяць да мяне ў бюро? — піша Ф. Феліні ў сваёй кнізе «Рабіць фільм».— Па праўдзе кажучы, я не ўмею падводзіць тэарэтычную базу пад свае дзівацтвы, не ўмею прыводзіць у стройную сістэму рытуалы, якімі суправаджаецца мая работа, бо ўсё гэта і ёсць мая работа».

Адвольнае і ў пэўнай меры бессвядомае выпісванне на паперы розных выкрутасаў, фігур, якія выглядваюць з-за нейкіх прадметаў, і мноства розных «кручкоў», якія не паддаюцца расшыфроўцы для пабочных людзей,— адным словам, уся гэта графічная неразбярыха, перасыпаная тэлефоннымі нумарамі, адрасамі і нейкімі заметкамі, магчыма, і ёсць тая самая нітачка, на канцы якой — новы фільм геніяльнага майстра.

### НЯЎРЫМСЛІВЫ БЕЛЬМАНДО

Як вядома, рызыкоўныя трукі, якія мы бачым у фільмах з удзелам Бельмандо, акцёр выконвае сам. Прафесіяналы спачатку называлі акцёра самазабойцам, потым, відаць, ад зайздрасці ахрысцілі яго выскачкай і нарэшце махнулі рукой: «Твая, маўляў, хлопец, справа, калі хочаш зламаць галаву».

Але час ішоў, галава заставалася цэлай, а «хлопец» размяняў шосты дзесятак. У апошнім сваім фільме ён, відаць, рашыў вывесці прафесіянальных каскадзёраў з сябе. У «Шчаслівым востраве Пасхі» — так называецца гэта кінакарціна — ён літаральна вылятае на маторнай лодцы з мора і праляцеўшы над дрэвамі і дамамі зноў эфектна «прыводняецца», выконвае трукі, падвешаны да верталёта і г. д. А канкурэнты па рызыцы паўтараюць: «Ненармальны, спыніся!» Але спыняецца Жаль-Поль Бельмандо, мяркуючы па ўсім, не збіраецца.

●

Вядомы французскі рэжысёр Жан-Люк Гадар рыхтуецца да экранізацыі «Караля Ліра». Цікава, што для выканання роляў у новым фільме запрошаны вядомы амерыканскі пісьменнік Норман Мейлер і былы прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан.

●

Ліна Вертмюлер, вядомы італьянскі рэжысёр і сцэнарыстка, часта дае сваім фільмам вельмі доўгія назвы. Так адна з апошніх яе кінакарцін называецца «Летняя ноч з грэчаскім профілем, міндалепадобнымі вачамі і араматам васількоў».

**Па матэрыялах прэсы.**

# Зарубежныя фільмы

# Фаварыты Месяца

**Народны артыст Грузінскай ССР Атар Іаселіяні — адзін з самых вядомых савецкіх кінарэжысёраў. Мы ведаем яго па-майстэрску знятыя фільмы «Лістапад» (1968), «Жыў пеўчы дрозд» (1971), «Пастараль» (1976). У 1984 годзе Атар Іаселіяні зняў у Францыі свой чацвёрты фільм — «Фаварыты Месяца», які ў тым жа годзе быў адзначан Вялікім спецыяльным прызам журы Міжнароднага кінафестывалю ў Венецыі.**

**Сваёй паэтычнасцю, ёмістымі дэталямі, якія ўзнімаюцца да філасофскіх абагульненняў, кінакарціна «Фаварыты Месяца» зацікавіла шырокія колы гледачоў у многіх краінах. Выходзіць стужка і на нашы экраны.**

**Аб чым жа гэты фільм Атара Іаселіяні і чаму ён зняў яго ў Францыі?**

— Над сцэнарыем фільма,— расказвае Атар Іаселіяні,— я працаваў пры ўдзеле французскага пісьменніка Жэрара Браша і яго сааўтара Катрын Фулон. Мы працавалі згодна з дагаворам паміж нашымі кінаарганізацыямі і французскай фірмай «Філіп Дзюсар». Фільм «Фаварыты Месяца» даследуе праблемы хціўвасці, нажывы. Бадай, гэта самы складаны з фільмаў, якія я здымаў. Традыцыйна пераказаць яго сюжэт немагчыма: я даследаваў праблему адзіноты, якая быццам бы можа быць запоўнена матэрыяльным, «рэчавым» светам, а на самай справе гэта пазбаўляе чалавека маральнай раўнавагі.

У нашай краіне хціўвасць, пагоня за нажывай караюцца законам, у капіталістычным жа грамадстве — гэта агульнапрынятыя правілы жыцця.

Па сюжэту фільма, чалавек робіць злачынства і не караецца крымінальна, застаецца сам-насам з сабой. Паказаць тое, што з ім адбываецца, выявіць сутнасць гэтага працэсу, прымусіць гледача задумацца — вось якой была задума. І для яе ажыццяўлення трэба было выбраць іменна антаганістычнае грамадства спажывання.

Фільм «Фаварыты Месяца» выклікаў шырокія водгукі французскай прэсы.

Часопіс «Рэвалюсьён» адзначаў: «Гэты фільм без удзелу кіназорак паставіў адзін з буйнейшых рэжысёраў свайго пакалення. Атар Іаселіяні, гэты спакойны грузін, паказаў сапраўдны Парыж, таму што ён умее ўсё бачыць, заўважаць».

А вось думка газеты «Монд»: «Гэта ён, Атар Іаселіяні, выратаваў гонар Францыі на фестывалі ў Венецыі, з'явіўшыся нечакана для ўсіх уладальнікам Гран пры за журы... Гэты савецкі грамадзянін, чыстакроўны грузін, з'явіўся нам як сапраўдны інтэрнацыяналіст, паставіўшы ў Францыі сваю чацвёртую поўнаметражную карціну... Добра ведаючы французскія норавы, Атар Іаселіяні зірнуў на Парыж з сумам і жалем, з лёгкай настальгіяй у адносінах да нашых класікаў і такім чынам паказаў нам яго як горад, які страціў густ да лёгкасці і да радасці жыцця».

Часопіс «Кае дзю сінема»: «Фаварыты» — выдатны фільм, а яго аўтар, Атар Іаселіяні,— выдатны рэжысёр. Ён не такі, як іншыя рэжысёры, і, магчыма, не зусім рэжысёр, ён больш, чым рэжысёр, прычым вельмі своеасаблівы.

...«Фаварыты Месяца» — цудоўны фільм пра Парыж нашай эпохі. Парыж вобразаў, ад якіх адгаліноўваюцца вобразы-успаміны старога Парыжа, народнага Парыжа або Парыжа пачатку стагоддзя.

«Фаварыты Месяца» — гэта сапраўдны метэор, які перасякае змрочны небасхіл сучаснага французскага кіно: лёгкі, паэтычны і сур'ёзны адначасова, і ў той жа час асабісты, які не вельмі ўжо сілкуецца, накшталт многіх сённяшніх добрых фільмаў, ушанаваннем кінематографам».

Газета «Матэн»: «Чалавек з Тбілісі дае нам магчымасць бачыць Парыж такім, якім мы ўжо яго не бачылі, мабыць, цэлую вечнасць».

Газета «Эко»: «Карціна «Фаварыты Месяца» не падобна ні на што вядомае да гэтага часу, валодае чароўнасцю, якая б'е цераз край, і надоўга прымушае нас быць у добрым настроі... Кінакамера з рэдкім і дзівосным веданнем глядзіць на людзей і рэчы з гумарам і пяшчотай, цікаўнасцю і настальгіяй... Неперасказуемы і чароўны фільм».

Газета «Франс-суар»: «Гэта вельмі добры фільм. Цераз крадзеныя, прададзеныя, згубленыя або знойдзеныя рэчы расказваецца гісторыя людзей, якія імі валодалі. Усё нечакана, здзіўляе, забаўляе. Увесь гэты маленькі свет — наш свет, на які Іаселіяні глядзіць з іранічнай паблажлівасцю, а то і жорсткай абыякавасцю».

Як бы падводзячы вынік сказанаму, газета «Юманітэ» падкрэслівала, што Атар Іаселіяні «...стварыў адзін з самых «французскіх» сучасных фільмаў».

Поспех савецкага рэжысёра не абышла «ўвагай» і радыёстанцыя «Свабода». 27 і 30 жніўня 1984 года яна прысвяціла фільму А. Іаселіяні і самому рэжысёру дзве спецыяльныя перадачы, у якіх, у прыватнасці, сцвярджалася, што пяць гадоў назад Іаселіяні выехаў у Францыю, быццам бы асуджаны дома на беспрацоўе. Праліваліся «кракадзілавы слёзы» наконт таго, што рэжысёр у яго пяцьдзесят гадоў, з якіх палавіна аддадзена кінематографу, зняў усяго толькі чатыры фільмы і некалькі кароткаметражных стужак. Вось што думае наконт гэтага сам Атар Іаселіяні:

— Я зняў мала фільмаў. Але кожная мая карціна — гэта вынік пражытага мною этапа, перыяду жыцця. Іменна таму мною зняты чатыры поўнаметражныя карціны, а не дзесяць, напрыклад. Гэта тыя фільмы, зняць якія я лічыў для сябе неабходным.

У Тбілісі, дома, у мяне заўсёды шмат спраў. У перапынках паміж фільмамі чытаю лекцыі ў Акадэміі мастацтваў, вяду педагагічную дзейнасць — выкладаю рэжысуру ў Грузінскім тэатральным інстытуце імя Ш. Руставелі. Гэта прыносіць мне велізарнае задавальненне. І наогул у нас у рэспубліцы і, у прыватнасці, на кінастудыі «Грузія-фільм» створаны ўсе ўмовы для плённай творчай дзейнасці.

## Стваральнікі новых фільмаў

## АТАР ІАСЕЛІЯНІ

У гэтым чалавеку, калі глядзіш яго фільмы, паэта ўгадваеш беспамылкова.

Так здаралася кожны раз. Калі дакументальным фільмам «Чыгун» ён абараніў дыплом у Інстытуце кінематаграфіі, шчаслівўцам, якія змаглі ўбачыць карціну, прыгадаліся такія шэдэўры, як «Соль Сванетыі» Калатозава і «Шкло» Хаанстра. Потым сапраўдным святам на экране з'явілася «Лістапад» — фільм таленавіты і значны сваім ясным нацыянальным каларытам жыцця, сваёй дакладнай, выразнай кінематаграфічнай мовай. Затым — новая стужка «Жыў пеўчы дрозд», пасля якой глядач пакідаў залу задуменным, разважаючы аб жыцці, аб яго сэнсе, аб яго патрабаванні да кожнага: знайсці сябе ў здзяйсненнях для людзей... Усхвалявана абмяркоўвалася гледачамі і мастацкая кінакарціна «Пастараль».

А як пачынаўся шлях Атара Іаселіяні

ў мастацтва? Быў на гэтым шляху і музычны тэхнікум, які ён закончыў адначасова па класу фартэпіяна, кампазіцыі і майстэрству дырыжора. Быў механіка-матэматычны факультэт МДУ. Але перад самай абаронай дыплома Іаселіяні раптам падаў дакументы ў Інстытут кінематаграфіі, на рэжысёрскі. А да таго ён плаваў матросам на рыбацкім сейнеры і працаваў доменшчыкам на металургічным заводзе — ці варта здзіўляцца і мудрасці маладога рэжысёра, і паэтычнасці яго мовы!..

На адным з першых грамадскіх праглядаў «Лістапада» яму прапанавалі выступіць перад сеансам. Іаселіяні выйшаў на сцэну і сказаў: «Дзень добры». Потым задуменна памаўчаў, пастаяў крыху і, ледзь развёўшы рукамі, рашуча пакінуў сцэну. Напэўна, у гісторыі кінематаграфіі гэта выступленне — самае кароткае і сціплае...

— У імя чаго, Атар Давыдавіч, вы выбралі іменна прафесію рэжысёра?

— Перш за ўсё заўважу, што да сваёй прафесіі адношуся несур'ёзна. Таму высокіх матываў пры яе выбары не было. Само рамяство гэта здаецца мне вельмі элементарным. А цяжкасць нашай прафесіі заключаецца ў тым, што заўсёды трэба быць шчырым. Плюс да ўсяго — цікава, што па рамяству наша прафесія авантурыстычная: зрабіць тое, што хочаш, было б проста, калі б цябе ўвесь час не штурхалі ў локаць — такія ужо спецыфічныя складанасці нашай вытворчасці. Усё гэта вельмі падобна на вядомы эпізод з чаплінскага фільма «Новыя часы». Памятаеце: герой карціны працуе афіцыянтам, і яму трэба данесці паднос ад кухні да кліента цераз танцуючую залу. Падаючы сам, ён кожны раз усё ж умудраецца ўтрымаць паднос. Так і ў нас. Карціна — гэта напоўненая пасудзіна, якую трэба данесці, не разліўшы...

Акрамя таго, думаецца, з усіх мастацтваў кіно з прычыны сваёй спецыфікі менш за ўсё мае права адносіцца да мастацтва. Таму мы так мала ведаем фільмаў, якія могуць называцца творамі мастацтва. На маю думку, такіх не больш як дзесятак.

У кінематографе ёсць кола праблем, якія заслугоўваюць увагі, заслугоўваюць таго, каб пра іх весці прамую і шчырую размову. Праблемы гэтыя — цалкам чалавечыя, датычаць сутнасці нашага жыцця. Я не стаўлю сабе мэт дыдактычных, выхаваўчых, напэўна, ад кіно яшчэ ніхто не змяніўся. Але калі ў зале хоць адзін чалавек уздыхне з табой разам... Калі ён думае пра з'яву, якую ты прапануеш яго ўвазе, гэтак жа, як і ты, гэта значыць знаходзіць пацвярджэнне сваім адносінам да гэтага факта, то чалавеку становіцца радасна, што ён не адзінокі.

У любым выніку чалавечай дзейнасці мяне радуе тое, што я гэта зразумеў. Мяне заўсёды радуе разуменне... Ёсць спрадвечны грузінскі жыццёвы пункт гледжання, што, маўляў, трэба правесці час на гэтым свеце аддаючы, калі ты хоць чым-небудзь валодаеш. Яшчэ Шата Руставелі пісаў: «Што пакінеш сабе, тое прапала, што раздасі, тое — тваё...».

— Чаму ўсё ж вы паставілі так мала карцін?

— Таму што, па-першае, карціны ставіць няпроста, а я стараюся гаварыць аб тым, што хвалюе. Таму што, па-другое, ніколі не маю планаў на будучае. Ведаеце,



як іншыя плануюць: спачатку здыму гэта, потым — тое... Я цвёрда ўпэўнен, што праз два-тры гады, калі толькі буду жыць на гэтым свеце, у мяне на тыя ж з'явы будзе іншы пункт гледжання, таму планаваць работу загадзя і здымаць няспынна не лічу магчымым. Трэба крыху пажыць, потым прысесці і азірнуцца...

— Якую ролю вы адводзіце сваім работам ў нашым грамадскім жыцці?

— Я хацеў бы, каб мае карціны былі стваральным інструментам. Каб дзякуючы ім паміж людзьмі ўзнікаў кантакт. Каб людзі задумваліся над жыццём. Каб яны духоўна выраўноўваліся... Вось, напрыклад, фільм Дэ Сіка «Цуд у Мілане» у пэўны момант жыцця з'явіўся для мяне падмогай. Іменна ў ім знайшоў я пацвярджэнне жыццёвым пытанням, што мучылі мяне. Магчыма, ён нават збярог мяне ад учынкаў з непрыемнымі вынікамі... Такую задачу, думаецца, у нейкай меры я змог выканаць у «Лістападзе» — іменна ў плане работы над захаваннем маральнага інстытута. А гэта вельмі каштоўна для маладых людзей, якія вагаюцца, для тых, што здольны зрабіць праступак, «перайсці Рубікон», і тады ўжо позна...

— Як вы адносіцеся да таго, што ў пракаце поспех вашых фільмаў не вельмі вялікі?

— Гэты няпоспех адлюстроўвае рэальныя суадносіны колькасці гледачоў, якія цікавяцца такім колам пытанняў, і тых, якія не цікавяцца. Акрамя таго, вялікае значэнне мае ўзровень і самаіх работнікаў пракату, бо пракат, на жаль, вызначае, колькі будзе копій фільма, якім экранам ён пойдзе, якая рэклама будзе яму папярэднічаць. А «Лістапад», напрыклад, быў выпушчан у колькасці 150 копій (разоў у дзесяць менш, чым трэба) і дэманстраваўся ў асноўным на клубным экране.

— А цяпер некалькі слоў аб фільме «Фаварыты Месяца».

— Гэта карціна даследуе праблемы хцівасці, нажывы. Усякая нажыва прыносіць матэрыяльны дабрабыт толькі за кошт гора, няшчасця і пакут іншых людзей. Бадай, гэта самы складаны з фільмаў, якія я здымаў. Традыцыйна пераказаць сюжэт гэтай карціны немагчыма. Фільм выраашан у форме прытчы. Структура яго грунтуецца на прасочванні ўчынкаў людзей і тых вынікаў, да якіх яны прыводзяць. Я імкнуўся даследаваць праблему адзіноты, якая нібыта запаўняецца матэрыяльным, «рэчавым» светам, а на самай справе гэта парушае маральную раўнавагу чалавека.

Тканка фільма, яго стылістыка — арганічнае перапляценне чалавечых лёсаў, у якім цяжка вычленіць адну стрыжнявую лінію, настолькі ўсё ўзаемазвязана і счэплена.

Гэтак жа, як і ў маіх папярэдніх стужках, у фільме здымаліся непрафесіянальныя акцёры. 50 персанажаў у «Фаварытах Месяца». Калейдаскоп асоб, лёсаў, прадстаўнікоў розных слаёў грамадства. Для таго кіно, якое я раблю, не патрэбны прафесіянальныя акцёры. Людзям, якія здымаліся ў фільме, не трэба было ўказваць, як стаяць і што рабіць,— яны не павінны рабіць нязвыклыя, не ўласцівыя ім дзеянні.

Такі ён, Атар Іаселіяні.

---

На кінастудыі «Профіль» польскі рэжысёр Вальдэмар Падгурскі паставіў кінакарціну **«Я ДЗЕЙНІЧАЎ АДЗІН»**.

...У канцы жніўня 1939 года пагроза нямецкай агрэсіі ўзрастала для Польшчы з дня на дзень. Прыгранічнай контрразведцы становіцца вядома аб рыхтуемым на 25 жніўня нападзе Гітлера на Польшчу. Гэтыя звесткі перадаў перабежчык з нямецкага боку — малады салдат вермахта ў форме сувязіста, які ўначы перасек граніцу і дабраахвотна перайшоў на бок польскіх войск. Праверка сакрэтнай інфармацыі даручаецца маладому афіцэру, паручыку Адаму Касовічу. Перабежчык Эрнст Гохман настойліва працягвае сцвярджаць, што ніхто яго не падсылаў, што ён дзейнічаў па ўласнаму перакананню. Аднак у 4 гадзіны 10 мінут 25 жніўня нішто не парушыла перадсвітальнай цішыні. Гохман разумее, што цяпер яму тым больш ніхто не паверыць.

Адам Касовіч прабуе разабрацца ва ўсім сам. Пры больш блізкім знаёмстве «шпіён» паўстае перад ім як прадстаўнік той групы інтэлігенцыі, якая імкнецца захаваць гонар нацыі, задушанай рэжымам Гітлера. Аднак прымаецца рашэнне перадаць Гохмана немцам, што раўназначна для перабежчыка смяротнаму прыгавору. Але ў той момант, калі яго прывозяць к граніцы, нямецкія войскі ўступаюць на тэрыторыю Польшчы. Адчайная і рызыкоўная спроба Адама Касовіча выратаваць няшчаснага канчаецца трагічна для іх абодвух...

У фільме зняліся Аляксандр Мікалайчык, Клаус Петэр Тыле, Катажына Паўляк, Збігнеў Бучкоўскі.

Венгерскі рэжысёр Петэр Гардаш разам са сцэнарыстам Андрашам Ошватам расказваюць нам у фільме **«НЕЗВЫЧАЙНЫ ТРУК»** гісторыю двух людзей: маладога, які прагне славы, і старога, які пазнаў яе смак, гісторыю іх складаных узаемаадносін, падобных больш на жорсткі паядынак.

...Дваццацісямігадовы акрабат Шаек, патомны цыркач, з-за траўмы нагі вымушан змяніць сваё амплуа. Выпадак зводзіць яго з сябрам бацькі — вядомым у мінулым ілюзіяністам, які некалі выконваў трук пад назвай «Чалавек у лёдзе». Маладому чалавеку здаецца, што нічога складанага ў гэтым труку няма. Вопытны ж ілюзіяніст ведае, што яго нумар — не звычайны цыркавы трук, каб яго выканаць, трэба быць чалавекам з «ледзяным» сэрцам. Страшней жа за холад і недахоп паветра пачуццё бязмежнага адзіноцтва,

якое не кожны можа перанесці. Каб неяк падрыхтаваць Шаека да трука, стары выклікае ў ім злосць, зайздрасць. Аднак пасля смерці старога Шаек толькі аднойчы выступае з гэтым трукам. На вяршыні славы ён адмаўляецца ад жорсткага нумара.

Ролі выканалі Каміл Фелекі, Карой Эпер'еш, Дзёрдзь Дэрнер, Ласла Чакані і іншыя.

**«ЛЮБОЎ З ПАХАМ СМАЛЫ»** — так называецца кінастужка рэжысёра з Чэхаславакіі Іржы Ганібала. Дзеянне яе адбываецца ў нашы дні ў адной з вёсак. Героі фільма — лесарубы. Сярод іх фізічнай сілай і неўраўнаважаным характарам вылучаецца Франта Друба. І хоць пад націскам узросту здароўе яго пачынае ўжо здаваць, прымірыцца з гэтым ён не хоча. На гэтай глебе і ўзнікаюць у яго многія канфлікты з моладдзю. А тут яшчэ юнак Славек, які сустракаецца з яго ўнучкай Янай. Франта выхоўваў дзяўчынку адзін. Цяпер яна вырасла і хоча паехаць у горад. І баліць ад усяго гэтага ў старога душа...

У фільме заняты Улада Мюлер, Вера Галацікава, Марэк Вашут, Магулена Бачанава, Ладзіслаў Фрэй і іншыя.

Марка, галоўнага героя фільма **«ПРЫЦЕМКІ»** югаслаўскага рэжысёра Горана Паскалевіча, аднавяскоўцы празвалі «амерыканцам»: шмат гадоў назад вымушаны паехаць на зароботкі ў Амерыку, ён вярнуўся на радзіму ўжо ў сталым узросце. Паехаў на зароботкі і сын Марка з жонкай, пакінуўшы пад апеку бацькі двах дзяцей. Дзеці сумуюць па бацьках. Але калі стары даведваецца, што сын з нявесткай разышліся і пакуль прыехаць не змогуць, ён для дзяцей сачыняе другое пісьмо — з абяцаннем бацькоў прыехаць к святу Вясны. Дарэмна чакаюць бацьку і маці дзеці. Марка, які ў свой час быў добрым танцорам, рашае на свята Вясны паказаць аднавяскоўцам сваё ўменне і... памірае.

Ролі выканалі Карл Малдэн, Джодзі Тэлен, Дэміён Нэш, Мія Рот.

Рэжысёр з ГДР Гюнтэр Фрыдрых паставіў кінастужку **«АПЕРАЦЫЯ «СКРЫПІЧНЫ ФУТЛЯР»**. Гэты дасціпны і захапляючы фільм для юных гледачоў раскажа ім пра іх равесніка — нястомнага выдумшчыка і фантазёра Олю Хольме, аб тым, як нечакана адна з яго задум дапамагла супрацоўнікам паліцыі абясшкодзіць злачынца.

У ролях — Аляксандэр Хайдэнрайх, Дзірк Барч, Пегі Штайнер і іншыя.

Галоўныя героі незвычайнага дэтэктыўнага фільма **«ЗДАРЭННЕ НА ВУЛІЦЫ ПАЛАНК»** рэжысёра з Венгрыі Шандара Міхайфі — дзеці. Каб дапамагчы свайму сябру — дванаццацігадоваму Лайчы Кондару памірыць бацькоў, якія развяліся, яны разыгрываюць сапраўдную гангстэрскую гісторыю.

У гэтым месяцы на экраны кінатэатраў выйдзе яшчэ адна кінакарціна для дзяцей. Гэта фільм-казка **«ФАЛЬШЫВЫ ПРЫНЦ»**, пастаўлены рэжысёрам з Чэхаславакіі Душанам Рапашам.

...Аднойчы ў кравецкую майстэрню зайшоў багаты купец і заказаў сабе адзенне для прыёму ў палацы. Усю ноч працаваў кравец, а раніцай вырашыў прымераць адзенне. І да таго сабе спадабаўся ў гэтым адзенні, што не змог утрымацца ад спакусы прагуляцца ў ім па гораду. На вуліцы ўсе пачціва раскланьваліся з краўцом, прымаючы яго за важнага гараджаніна. І выхвальны кравец вырашыў не вяртацца ў майстэрню, а ісці шукаць шчасця па свету... А што адбылося далей, якія прыгоды перажыў кравец, гледачы даведаюцца, калі пагледзяць гэты цікавы і захапляючы фільм.

У ім выступаюць Свяціслаў Гончыч, Душан Войнавіч, Каміла Магалава і іншыя.

Амерыканскі рэжысёр Хаскел Уэкслер стварыў па свайму сцэнарыю кінастужку **«ЛАЦІНААМЕРЫКАНЕЦ»**. Яна расказвае аб цяжкай барацьбе нікарагуанцаў з контррэвалюцыянерамі, аб мужнасці, стойкасці нікарагуанскага народа, які са зброяй у руках абараняе сваю рэвалюцыю.

У краіне, адміністрацыя якой спачатку тайна, а ў апошні час усё больш адкрыта абвяшчае сваёй мэтай расправу з невялікай лацінаамерыканскай дзяржавай, што стала на шлях незалежнасці і рэвалюцыйных пераўтварэнняў, стварэнне падобнага фільма — не проста факт кінематографа, але і грамадзянскі ўчынак.

У фільме зняліся Роберт Белтран, Анет Кардона, Тоні Плана, Рыкарда Лопес, Луіс Тарэнтэс і іншыя.

Свой першы ігравы фільм **«ГРОГ»** прапануе нашым гледачам італьянскі рэжысёр Франчэска Лаўдадзіо.

Ад большасці кінакамедый, якія запоўнілі італьянскі экран, гэта сатырычная кінастужка адрозніваецца перш за ўсё тым, што размова ў ёй ідзе аб рэчах сур'ёзных, а для Італіі і вельмі актуальных. Пастаўлены ў 1983 годзе (і ў тым жа годзе паказаны на XIII Маскоўскім кінафестывалі), фільм перадае атмасферу трывогі, усеагульнага страху, якая пануе ў апошнія гады ў Італіі, запалоханай крывавымі злачынствамі тэрарыстаў, мафіі, звычайных крымінальнікаў і бандытаў. І разам з тым паказвае, як на гэтым страху, на гэтых злачынствах нажываюцца, робяць свой бесчалавечны бізнес сродкі буржуазнай інфармацыі — у першую чаргу, прыватныя тэлевізійныя кампаніі, якія атрымалі ў Італіі вялікае пашырэнне і існуюць дзякуючы рэкламе і нястрымнай пагоні за сенсацыямі.

Ролі выканалі Франка Нера, Сандра Міла, Габрыэле Ферцэці, Амера Антануці і іншыя.

Грэчаскі рэжысёр Костас Ферыс паставіў кінастужку **«РЭМБЕТЫКО»**. Так называецца музычны жанр, блізкі да народных песень, які бярэ свае вытокі ў грэчаскім і ўсходнім фальклоры. У фільме расказваецца пра лёс спявачкі. Падзеі яго ахопліваюць амаль трыццацігадовы перыяд. У фільм уведзены хранікальныя кадры: пачатак фашызму ў Італіі, фашызм у Германіі, падзеі другой сусветнай вайны, вызваленне краін Заходняй Еўропы. На гэтым шырокім гістарычным фоне лёс гераіні ўспрымаецца не проста як асабістая гісторыя, а як расказ аб свабодалюбівым грэчаскім народзе.

У фільме зняліся Сацірыя Леанарду, Міхаліс Маніяціс, Нікас Калагеропулас і іншыя.

Пасля доўгага перапынку, вярнуўшыся з палітычнай эміграцыі, аргенцінскі рэжысёр Херардо Вальеха зняў на радзіме, у абноўленай Аргенціне, карціну **«ЖОРСТКІ ЛЕС»**, падзеі якой вяртаюць гледача да трагічнага часу прыходу да ўлады фашысцкай хунты.

Ролі выканалі Карлас Карэлья, Альберта Бенегас, Леанор Мансо, Александра Каплей.

— Над сценарием фильма **«ФАВОРИТЫ ЛУНЫ»**,— рассказывает его режиссер Отар Иоселиани,— я работал при участии французского писателя Жерара Браша и его соавтора Катрин Фулон. Мы работали согласно договору между «Совинфильмом» и французской фирмой «Филипп Дюсар». Фильм «Фавориты Луны» исследует проблемы стяжательства, наживы. Пожалуй, это самый сложный из фильмов, которые я снимал. Традиционно пересказать его сюжет невозможно: я исследовал проблему одиночества, которое якобы может быть заполнено материальным, «вещным» миром, а на самом деле это лишает человека морального равновесия.

Фильм отмечен Большим специальным призом кинофестиваля в Венеции.

...В конце августа 1939 года угроза немецкого вторжения в Польшу возрастала изо дня в день. Пограничной контрразведке становится известно о готовящемся нападении Гитлера на Польшу. Эти сведения передал перебежчик с немецкой стороны — молодой солдат вермахта в форме связиста. Проверка секретной информации поручается молодому офицеру. Перебежчик Эрнст Гохман упорно продолжает утверждать, что никто его не подсылал, что он действовал по собственному убеждению. Однако в названное им время — в 4 часа 10 минут 25 августа ничто не нарушило предрассветной тишины. Гохман понимает, что теперь ему тем более никто не поверит. А между тем агрессия приближается... Об этом польский фильм **«Я ДЕЙСТВОВАЛ ОДИН»**.

В венгерской кинокартине **«НЕОБЫЧНЫЙ ТРЮК»** рассказана история двадцатисемилетнего акробата Шайека, потомственного циркача, который из-за травмы ноги вынужден изменить свое амплуа. Случай сводит его с другом отца — известным в прошлом иллюзионистом, когда-то исполнявшим трюк под названием «Человек во льду». Молодому человеку кажется, что ничего сложного в этом трюке нет. Опытный же иллюзионист знает, что его номер — не обычный цирковой трюк, чтобы его выполнить, нужно быть человеком с «ледяным» сердцем...

**«ЛЮБОВЬ С ЗАПАХОМ СМОЛЫ»** — так называется чехословацкая кинолента. Действие ее происходит в наши дни в одном из сел. Ее герои — лесорубы. Среди них физической силой и неуравновешенным характером выделяется Франта Друба. И хотя под напором возраста здоровье его уже начинает сдавать, примириться с этим он не хочет...

Марко, главного героя югославского фильма **«СУМЕРКИ»**, односельчане прозвали «американцем»: много лет назад вынужденный уехать на заработки в Америку, он вернулся на родину уже в зрелом возрасте. Уехал на заработки и сын Марко с женой, оставив на попечение отца двоих детей...

Кинолента **«ОПЕРАЦИЯ «СКРИПИЧНЫЙ ФУТЛЯР»** — остроумный и увлекательный фильм для юных зрителей об их ровеснике — неутомимом выдумщике и фантазере и о том, как неожиданно одна из его затей помогла сотрудникам полиции обезвредить преступника.

Герои необычного венгерского детективного фильма **«ПРОИСШЕСТВИЕ НА**

УЛИЦЕ ПАЛАНК» — дети. Чтобы помочь своему другу — двенадцатилетнему Лайчи Кондору помирить родителей, состоящих в разводе, они разыгрывают настоящую гангстерскую историю.

**Однажды в портняжную мастерскую зашел богатый купец и заказал себе платье для приема во дворце. Всю ночь не покладая рук работал портной, а утром решил примерить готовый наряд. И до того себе понравился в этом платье, что не смог удержаться от искушения прогуляться в нем по городу. А что из этого получилось, какие приключения пережил портной, зрители узнают, когда посмотрят интересный и увлекательный фильм «ФАЛЬШИВЫЙ ПРИНЦ» (ЧССР).**

**Американская кинолента «ЛАТИНОАМЕРИКАНЕЦ» рассказывает о трудной борьбе никарагуанцев с контрреволюционерами, о мужестве, стойкости никарагуанского народа, с оружием в руках защищающего свою революцию.**

**От большинства кинокомедий, заполнивших итальянский экран, сатирическая итальянская картина «ГРОГ» отличается прежде всего тем, что речь в ней идет о вещах серьезных, а для Италии и весьма актуальных. Фильм передает атмосферу тревоги, всеобщего страха, царящую в последние годы в Италии, запуганной кровавыми преступлениями террористов.**

**Рембетико — так называется музыкальный жанр, близкий к народным песням, который берет свои истоки в греческом и восточном фольклоре. В греческом фильме «РЕМБЕТИКО» рассказывается о судьбе певицы. События его охватывают почти тридцатилетний период.**

**После долгого перерыва, вернувшись из политической эмиграции, аргентинский режиссер Херардо Вальеха снял на родине, в обновленной Аргентине, картину «ЖЕСТОКАЯ СУДЬБА», события которой возвращают зрителя к трагическим временам прихода к власти фашистской хунты.**

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Дарагія сябры!**

**Рэдакцыя атрымлівае многа пісьмаў, у якіх нашы чытачы просяць расказаць пра сваіх любімых акцёраў і змясціць іх здымкі. Вядома, адразу выканаць усе такія просьбы практычна немагчыма. Але рэдакцыя ўлічвае пажаданні чытачоў у сваёй рабоце і па меры магчымасці стараецца іх задавальняць. Так па просьбе чытачоў толькі за апошні час змешчаны партрэты Аляксандра Галібіна, Алы Пугачовай, Ігара Скляра, Міхаіла Баярскага, Амітабха Баччана, Аляксандра Абдулава, Зінат Аман, Мітхуна Чакраборці і іншых папулярных акцёраў.**

**У далейшым мы пастараемся расшырыць публікацыі па просьбе чытачоў і паведамляем усім таварышам, якія прыслалі нам такія пісьмы, што мы маем на ўвазе іх просьбы.**

# НА КІНАЭКРАНАХ У ЧЭРВЕНІ

**ТВАР У ТВАР («Масфільм»).**
Вострасюжэтная кінакарціна пра савецкага журналіста, які змагаецца за вяртанне ў СССР мастацкіх каштоўнасцей, вывезеных гітлераўцамі.

**СВОЙ ХЛЕБ («Масфільм»).**
Аўтары кінакарціны ўзнімаюць надзённую праблему развіцця асабістай ініцыятывы працаўнікоў вёскі.

**СПАДАРОЖНІК («Масфільм»).**
У цэнтры стужкі — два героі-антыподы: вынаходнік-самавучка Кастылін, які беззапаветна аддае свой талент у імя развіцця тэхнічнай творчасці, і навуковы супрацоўнік Жылін, скептыцызм і інертнасць якога часам зводзяць на нішто ўсе намаганні такіх падзвіжнікаў.

**КУР'ЕР («Масфільм»).**
Герой лірычнай кінакамедыі — сённяшні семнаццацігадовы выпускнік школы, у якога з-за яго іроніі і саманадзейнасці ўзнікаюць даволі складаныя адносіны з дарослымі.

**ЧАЛАВЕК, ЯКІ БРАЎ ІНТЭРВ'Ю («Беларусьфільм»).**
Вострасюжэтная кінакарціна аб тым, як савецкі журналіст-міжнароднік, рызыкуючы жыццём, выкрывае ворагаў Афганістана, якія ў пагранічнай дзяржаве вядуць выпрабаванні новай бактэрыялагічнай зброі.

**ДОЎГІЯ ПРОВАДЫ (Адэская кінастудыя).**
Псіхалагічны фільм пра складаныя ўзаемаадносіны маці і сына-падлетка.

**МАМА, РОДНАЯ, ЛЮБІМАЯ... (Кінастудыя імя А. Даўжэнкі).**
Кінарасказ пра подзвіг савецкай жанчыны, якая выхавала дзесяцярых дзяцей.

**УЗНАГАРОДЗІЦЬ (ПАСМЯРОТНА) (Кінастудыя імя М. Горкага).**
Дзеянне вострасюжэтнага фільма адбываецца ў першыя пасляваенныя гады. Яго герой — у мінулым франтавы разведчык, цяпер дэмабілізаваны з-за цяжкага ранення, у выніку чаго ён поўнасцю страціў памяць. Гэта рашаюць выкарыстаць бандыты.

**РЫСЬ ВЯРТАЕЦЦА («Масфільм»).**
Стужка з'яўляецца завяршэннем кінатрылогіі пра рысяня Кунака, пачатай фільмамі «Сцежкай бескарыслівай любві» і «Рысь выходзіць на сцежку».

**ЖАНЧЫНА Ў КАПЕЛЮШЫ (Польшча).**
Расказ пра жыццё маладой тэатральнай актрысы, якой пачуццё ўласнай годнасці не дазваляе ўключыцца ў інтрыгі вакол размеркавання роляў.

**БАРЫС І (Балгарыя).**
Двухсерыйная кінакарціна прысвечана выдатнаму дзяржаўнаму дзеячу IX стагоддзя — цару Барысу І, які аб'яднаў разрозненыя плямёны Балгарыі ў адзіную нацыю.

**НЯЛЕГКА З МУЖЧЫНАМІ (Югаславія).**
Кінакамедыя пра жыццё разведзенай жанчыны, якая ў клопатах і не думае аб тым, што яшчэ можа падабацца мужчынам. Аднак, паехаўшы адпачываць да мора, яна нечакана атрымлівае адразу дзве прапановы рукі і сэрца.

**УСЕ ПАВІННЫ БЫЦЬ У ПІЖАМАХ (Чэхаславакія).**
Герой кінакамедыі пасля перанесенага інфаркту вырашыў усур'ёз заняцца сваім здароўем. Але ў жыцці так многа спакус...

**ШЛЯХ ДА ДАВЕР'Я (Румынія).**
Галоўны герой гэтай дэтэктыўнай гісторыі — дзевятнаццацігадовы хлопец, на якога падаюць падазрэнні ў забойстве.

**БЕНВЕНУТА (Бельгія — Францыя — Італія).**
Псіхалагічная драма пра каханне, дзе мінулае пераплялося з сучасным, фантазія — з рэальнасцю. Галоўныя героі фільма — пісьменніца — аўтар нашумелага рамана пра каханне «Бенвенута» — і малады сцэнарыст, які задумаў экранізаваць яго.

**РЭДКАЯ ПАРОДА (ЗША).**
Гісторыя аб тым, як вядомы альпініст згадзіўся здабыць для нейкага багатага калекцыянера яйкі птушак рэдкай пароды, якія жывуць высока ў гарах.

**НАСЕННЕ ПОМСТЫ (Бразілія).**
У цэнтры фільма — лёс індзейскага хлопчыка, які застаўся адзіным прадстаўніком знішчанага бандытамі-наёмнікамі племя і пакляўся адпомсціць тым, хто знішчыў яго народ.

На першай старонцы вокладкі — вядомая актрыса Тамара Шакірава.

Фота «Саюзінфармкіно».

На чацвёртай старонцы — папулярны акцёр, спявак і паэт Уладзімір Высоцкі, які выконвае галоўную ролю ў фільме «Кароткія сустрэчы».

ШТОМЕСЯЧНЫ ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ПА КІНЕМАТАГРАФІІ. ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП БЕЛАРУСІ. МІНСК.

**Рэдактар Ю. М. БАГДАНАЎ.**
**Рэдакцыйная калегія: І. А. ГРЫДЗІН, М. А. КАРАЛЕВІЧ (адказны сакратар), В. Ф. НЯЧАЙ, К. Р. РАМАНОЎСКІ, М. П. ФРАЙМАН, Ул. Т. ХАЛІП.**

№ 5 (357). Выдаецца з студзеня 1957 г.

Адрасы і фотаздымкі акцёраў, а таксама іншы фактычны матэрыял рэдакцыя не высылае.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск-41, Ленінскі праспект, 79. Тэлефон — 32-86-22.



Здадзена ў набор 03.04.87. Падп. да друку 23.04.87. Фармат 60×90 1/8. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 2. Ул.-выд. арк. 4. Ум. фарб.-адб. 5,5. Зак. 162. Тыраж 95057 экз. Цана 30 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня Выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

